**Протапрасьвітар Віктар Данілаў**

# Мой шлях да Бога і да Каталіцкай Царквы



Protopresbitero Viktar DANILAU

# Il mio cammino verso Dio e la Chiesa Cattolica

*Il gruppo sacerdotale "Unitas fratrum"*
*dell'Associazione di Promozione Ecclesiale*
*"Promecclesia" di Ravenna (Italia) è lieto di collaborare*
*con la redazione della rivista greco-cattolica bielorussa "CARKVA"*
*all'edizione del libro del Protopresbitero Viktar Danilau*
*realizzata dalla Comunità Greco-Cattolica di Polatsk.*

*Questo libro, che presenta una testimonianza preziosa*
*della vita e attività pastorale di un testimone coraggioso*
*che con la prigionia ha confermato la sua fedeltà a Cristo,*
*possa servire come auspicio e incoraggiamento*
*ad un impegno evangelico per i cristiani in Bielorussia.*

Polatsak
2004

Протапрасьвітар Віктар ДАНІЛАЎ

# Мой шлях да Бога і да Каталіцкай Царквы

*Супольнасьць італійскіх каталіцкіх сьвятароў “Unitas fratrum”*
*Асацыяцыі для разьвіцьця апостальства Царквы*
*“Promecclesia” ў Равэне з радасьцю супрацоўнічае ў выданьні*
*гэтае кнігі Протапрасьвітара Віктара Данілава.*

*Каштоўнае сьведчаньне жыцьця і душпастырскага служэньня,*
*якое Аўтар пацьвердзіў зьняволеньнем дзеля Хрыста,*
*няхай спрычыніцца да ўзрастаньня евангельскай руплівасьці*
*хрысьціянаў у Беларусі.*

Грэка-каталіцкая рэлігійная грамада г.Полацка
Полацак
2004

**ББК 86.372 (4Беі)**
**УДК 282 (476)**
**Д 18**

МАРТЫРЫЯ 2

*Рэдактары серыі:*
*Яўген Андросік*
*Андрэй Крот*

**ДАНІЛАЎ Віктар.**
**Д18 Мой шлях да Бога і да Каталіцкай Царквы.**— Полацак: Грэка-каталіцкая рэлігійная грамада г. Полацка, 2004.— 100 с.
**ISBN 985-6448-13-1**

Кніга «Мой шлях да Бога і да Каталіцкай Царквы» беларускага грэка-каталіцкага сьвятара Віктара Данілава, які больш за 7 гадоў правёў у сталінскіх лагерах,— гэта дакумент эпохі. У ёй чытач даведаецца пра складаны шлях а. Віктара Данілава ад атэізму да Бога і да Каталіцкай Царквы. Аўтар распавядае пра тое, як ва ўмовах недахопу рэлігійнай інфармацыі можна было з атэіста стаць перакананым хрысьціянінам. Вырашальным на гэтым шляху было імкненьне да праўды, жаданьне зразумець сэнс чалавечага існаваньня і вялікая праца над сабой. Гэтая кніга — сьведчаньне чалавека, які больш за ўсё палюбіў праўду і цалкам прысьвяціў сваё жыцьцё служэньню гэтай праўдзе.

Кніга а. Віктара Данілава — другая ў серыі «Мартырыя», што па-грэцку азначае сьведчаньне.

**ББК 86.372 (4Беі)**
**УДК 282 (476)**

**ISBN 985-6448-13-1**

# Ад рэдакцыі

*Дарагі чытач!*

*Кніга, якую мы прапануем вашай увазе, незвычайная; гэта сьведчаньне чалавека, у лёсе якога адбіўся лёс эпохі, у якую яму давялося жыць. Аўтар кнігі, айцец Віктар Пятровіч Данілаў, нарадзіўся 20 ліпеня 1927 году ў горадзе Яраслаўлі. У 1948 годзе будучы сьвятар, а тады студэнт 1-га курсу Яраслаўскага педагагічнага інстытуту, за свае крытычныя заўвагі адносна Сталіна быў абвінавачаны ў антысавецкай агітацыі. Згодна з гэтым абвінавачваньнем ён быў асуджаны на 10 гадоў пазбаўленьня волі і накіраваны ў лагер для асабліва небясьпечных палітычных злачынцаў. Заключэньне ён адбываў у г.Інта, што ў Рэспубліцы Комі. У 1951 годзе ён быў зноў арыштаваны па падазрэньні ў падрыхтоўцы ўцёкаў з лагеру. Сьледчым даказаць гэта не ўдалося, але тэрмін зьняволеньня для яго быў павялічаны яшчэ на 10 гадоў. У 1955 годзе, пасьля сьмерці Сталіна, Віктар Данілаў быў вызвалены па амністыі, праз сем з паловай гадоў лагероў. Пазьней будучы сьвятар быў поўнасьцю рэабілітаваны.*

*Апынуўшыся на волі, Віктар Данілаў зноў аднавіў вучобу ў Яраслаўскім педагагічным інстытуце, які і скончыў у 1959 годзе па сьпецыяльнасьці гісторыя і асновы вытворчасьці. Пасьля ён паступіў у Маскоўскі фінансава-эканамічны тэхнікум, атрымаў у 1963 годзе сьпецыяльнасьць эканаміста-фінансіста. Але жыцьцё і навука не даваліся яму проста, бо падчас студыяў ён знаходзіўся пад тайным наглядам КГБ. На яго пісалі даносы, па палітычных матывах яму забаранілі паступаць у асьпірантуру; не давалі магчымасьці ўладкавацца на працу. Супрацоўнікі КГБ некалькі разоў праводзілі ў яго кватэры вобыск.*

*Але, нягледзячы на ўсе гэтыя цяжкасьці, Віктар Данілаў не губляўся і цьвёрда трымаўся сваёй жыцьцёвай лініі. У 1970-ыя гады ён патаемна атрымліваў багаслоўскую адукацыю ў падпольных структурах Грэка-Каталіцкай Царквы. У 1976 годзе мітрапаліт Уладзімір Стэрнюк, які на працягу больш чым 20 гадоў узначальваў Украінскую Грэка-Каталіцкую Царкву ва ўмовах падпольля, удзяліў яму сьвятарскія сьвячаньні. Ад гэтага часу а. Віктар Данілаў жыве ў Горадні. Жанаты, мае дачку і двух унукаў.*

*Да 1994 году а. Віктар Данілаў займаўся місіянерскай працай, перакладамі дапаможнай рэлігійнай літаратуры для Рыжскай рыма-каталіцкай духоўнай семінарыі, адзінай ва ўсім былым СССР.*

*Пасьля выхаду Грэка-Каталіцкай Царквы з вымушанага падпольля стала магчымае афіцыйнае*

*прызначэньне для душпастырскай дзейнасьці. У 1992 годзе царкоўныя ўлады прызначылі айца Віктара Данілава парахам Гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай. У свой 70-гадовы юбілей за сваю місіянерскую і душпастырскую дзейнасьць айцец Віктар быў адзначаны высокай узнагародай Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў — крыжам з упрыгожаньнямі. У 1999 годзе а. Віктар Данілаў прызначаны дэканам парафіяў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, а ў 2000 годзе ўзьведзены ў сан протапрасьвітара.*

*Айцец Віктар Данілаў вядомы ня толькі як перакладчык, ён зьяўляецца аўтарам некалькіх арыгінальных твораў рэлігійна-багаслоўскага характару. Асноўныя з іх (на расейскай мове): «У пошуках ісьціны», «Тэалогія перажываньня», «Пра некаторыя асаблівасьці каталіцкага веравызнаньня і ягоны ўплыў на гісторыю Заходняй Еўропы», «Гісторыя пранікненьня і распаўсюджваньня хрысьціянства ў рускіх землях да 1917 г.», «Казаньні на евангельскія тэмы». Таксама ў рукапісах ёсьць яшчэ некалькі прац. Адзін з ягоных твораў, які называецца «Мой шлях да Бога і да Каталіцкай Царквы», мы і прапануем вашай увазе ў перакладзе на беларускую мову.*

*У 1997 годзе гэтая кніга а. Віктара Данілава выйшла ў расейскай мове ў выдавецтве «Сафія» пры Полацкай грэка-каталіцкай грамадзе. Вельмі хутка ўвесь яе наклад разышоўся і паўстала патрэбнасьць у новым выданьні. Рэдакцыя газеты «Царква» сумесна з супрацоўнікамі Беларускай*

*рэдакцыі Радыё Ватыкану (на хвалях якога гучалі ўрыўкі з кнігі а. Віктара Данілава «Мой шлях да Бога і да Каталіцкай Царквы») падрыхтавалі дапоўнены беларускі варыянт.*

*Нават калі некаторыя з закранутых у гэтай кнізе праблемаў у наш час нехта можа бачыць інакш, актуальнасьць пастаўленых айцом Віктарам пытаньняў духоўнага жыцьця застаецца бясспрэчнай.*

*Кніга беларускага грэка-каталіцкага сьвятара Віктара Данілава «Мой шлях да Бога і да Каталіцкай Царквы» — гэта дакумент эпохі, з усімі яе сьветлымі і цёмнымі бакамі. Яна — сьведчаньне чалавека, які палюбіў праўду больш за ўсё і цалкам прысьвяціў сваё жыцьцё служэньню гэтай праўдзе.*

*Гэтае выданьне адрасавана найперш да маладога чытача, які яшчэ толькі распачынае радаснае і цяжкае падарожжа ў пошуках Шляху, Праўды і Жыцьця.*

*Аляксандр Даброер*
*Ігар Бараноўскі*

# Прадмова

Многім цікава даведацца, якім чынам ва ўмовах мэтанакіраванага атэістычнага выхаваньня і недахопу інфармацыі рэлігійнага характару магчыма з бязбожніка зрабіцца перакананым хрысьціянінам-каталікам.

Мой аповед у нейкай ступені адказвае на гэтае пытаньне. Прааналізаваўшы зьмест напісанага, прыходзіш да высновы, што вырашальнымі момантамі ў перарабленьні атэіста ў рэлігійнага чалавека былі наступныя фактары:

1. Прага да праўды, імкненьне разабрацца ў сэньсе чалавечага жыцьця.

2. Вялікая працавітасьць у пошуках праўды.

3. Пераадольваньне пыхі, да чаго ў значнай ступені спрычыніліся жыцьцёвыя абставіны.

4. Містычныя перажываньні, выкліканыя тым, што душа была падрыхтаваная да іх.

Такім чынам, перад тым, як брацца за вырашэньне пытаньня пра існаваньне Бога, трэба палюбіць праўду больш за ўсё іншае і паставіць

пошук яе на першае месца сярод уласных жыцьцёвых каштоўнасьцяў. Трэба зразумець шкоду пыхі і разьвітацца з ёю ці хаця б навучыцца яе стрымліваць, калі гэта бывае неабходна. Фанабэрыя вядзе да самападману, бо чалавек праз задавальненьне свайго самалюбства не заўважае ўласных памылак. Урэшце, патрэбна вялікая працавітасьць, любоў да разважаньняў.

Замацаваньне рэлігійных перакананьняў лепш за ўсё дасягаецца праз містычныя перажываньні. Таму вельмі важна, ідучы да Бога і хрысьціянства, знайсьці і адчуць Бога ў самім сабе. А гэта дасягаецца праз вялікую ўнутраную працу над самім сабой, асабліва ў каяньні і малітоўных разважаньнях.

Аўтар кнігі спадзяецца, што гэтым сваім невялікім аповедам ён зможа дапамагчы тым, хто шукае Бога — дапамагчы знайсьці Яго, а тым, хто хістаецца ў сваім рэлігійным сьветапоглядзе — умацавацца ў веры.

## Разьдзел 1

# Станаўленьне атэістычнага сьветапогляду і яго першае выпрабаваньне

Нарадзіўся я ў Расеі ў 20-х гадах у сям'і служачых. Мае бацькі былі беспартыйныя, паводле абраду Хросту лічыліся праваслаўнымі, але ў Бога ня верылі. Ніякага рэлігійнага выхаваньня ў маёй сям'і не існавала. Адзіная рэлігійная традыцыя — гэта ўспамін двух хрысьціянскіх сьвятаў па праваслаўным календары: Пасхі і Божага Нараджэньня. Адзіны рэлігійны абрад, які быў зьдзейсьнены нада мной,— хрышчэньне ў праваслаўнай царкве ў самым пачатку жыцьця, калі я быў яшчэ немаўляткам. У маёй памяці не захавалася ніводнага наведваньня царквы, мае бацькі таксама ў царкву не хадзілі.

Першае маё дачыненьне да рэлігі адбылося ў сямігадовым узросьце, за 2-3 месяцы да па-

 

ступленьня ў першы клас школы. Тады я жыў на лецішчы. У суседняй вясковай хаце нехта памёр. І я заўважыў каля гэтай хаты века труны чорнага колеру. Для мяне гэта было незвычайна, і я стаў назіраць за тым, што там адбывалася. Праз кароткі час з хаты выйшаў праваслаўны сьвятар, апрануты ў чорную расу. Ягоны жалобны выгляд цалкам адпавядаў уражаньню ад чорнага века труны, якое выклікала ў душы непрыемнае пачуцьцё. Часткова, магчыма, з гэтай нагоды, а часткова з нагоды варожых хрысьціянству дзіцячых кніжак, падобных пушкінскай «Сказки о попе и работнике его Балде», а магчыма, і пад уплывам аповедаў супраць духавенства, у мяне, калі я ўбачыў сьвятара, узьнікла да яго такое варожае пачуцьцё, што я цішком кінуў у яго камень і ўцёк.

Пасьля таго выпадку я жыў, зусім не заўважаючы рэлігіі аж да 18-гадовага ўзросту. Што гэта было за жыцьцё? Якія былі ягоныя ідэалы? Зьнешне гэта было жыцьцё звычайнага савецкага хлопчыка. Я скончыў сямігодку, потым ФЗУ (фабрычна-завадзкую вучэльню) і некаторы час працаваў рабочым. Але маё ўнутранае жыцьцё было, верагодна, не зусім звычайнае. Хоць мною, як і пераважнай большасьцю людзей, валодаў пафас барацьбы супраць фашызму, і я верыў у камунізм, усё ж такі ў мяне былі некаторыя свае асаблівасьці.

Першай з гэтых асаблівасьцяў было тое, што я ў 15-16 гадоў зацікавіўся творчасьцю нямец-

кага філосафа Фрыдрыха Ніцшэ, прачытаў ягоную кнігу «Так казаў Заратустра». Кніга гэтая атруціла мяне сваёй гардыняй, разуменьнем сваёй фальшывай выключнасьці; яна абгрунтавала маё адмоўнае стаўленьне да людзей, як да быдла; падзяліла людзей у маім усьведамленьні на разумных і моцных і на слабых і дурных. Другой маёй асаблівасьцю ў той час было імкненьне знайсьці сэнс, канчатковую мэту жыцьця, праўду. Я часта задумваўся над пытаньнем: нашто жыць? Многія адказвалі мне на гэтае пытаньне: трэба вучыцца, скончыць інстытут і зрабіцца вучоным. Але тады зноў узьнікала пытаньне: а навошта? Навошта трэба быць педагогам, інжынерам, вучоным? Навошта? І я ня мог супакоіцца, шукаў адказ на гэтае пытаньне. Жыць для народа? А што зрабіць, каб народу было добра? Я павінен быў знайсьці адказ на гэтыя пытаньні. І пад уплывам асяроддзя, якое акружала мяне, я адказаў сабе самому, што жыць трэба дзеля камуністычнай будучыні.

Такім чынам, другой маёй асаблівасьцю ў юнацтве быў пошук праўды, пошук сэнсу жыцьця. Але сэнс жыцьця, на маю думку, павінен быў задаволіць ня толькі патрабаваньні сумленьня і справядлівасьці грамадзкіх адносінаў. Ён павінен быў зрабіцца выяваю гістарычнай неабходнасьці, заканамерным вынікам гістарычнага працэсу. Такім мне ўяўляўся камунізм, што менавіта так падаваўся ў школьных праграмах.

 

І хаця ж мне, атручанаму ідэямі Ніцшэ, вельмі не падабаліся ў камуністычнай ідэі тэарэтычныя і практычныя прынцыпы калектывізму, аднак, дзякуючы таму, што камунізм мне ўяўляўся як гістарычная непазьбежнасьць, я лічыў яго абсалютнай праўдай і быў упэўнены, што трэба заўсёды сьледаваць тэндэнцыі сусьветнага гістарычнага працэсу, які, нібыта, вядзе да пабудовы камуністычнага грамадзтва.

У 16 гадоў я ўступіў у камсамол. Супрацьлегласьці ніцшэанства, якім я захапляўся ў той час, і камунізму я стараўся прымірыць, насьледуючы прынцып: «асоба апраўдвае сродкі». Гэты прынцып у маім разуменьні значыў, што найбольш паўнавартасная асоба мае права ўжыць любыя сродкі пры дасягненьні сваіх мэтаў, калі гэтыя мэты не супярэчаць мэтам камунізму. Калі ўзгадваю сёньня пра гэты прынцып, мне робіцца сорамна, але гэткай была тады мая душа.

Аналізуючы цяпер сваю мінулую ўпэўненасьць у камунізьме, я разумею, што маё сьледаваньне яму як гістарычнай непазьбежнасьці, як чамусьці неабходнаму, безумоўнаму, абсалютнаму, па сваёй сутнасьці было прагай Бога, бо толькі Бог у гэтым сьвеце зьяўляецца Абсалютам, Безумоўнасьцю, свайго роду Неабходнасьцю. А ўсё іншае ёсьць адносным.

Аналізуючы сёньня сваю зацікаўленасьць ніцшэанствам, вобразам героя-звышчалавека, я разумею, што гэтая зацікаўленасьць была пра-

гай сілы, самасьцьвярджэньня ў сьвеце, прагай свабоды, якая прысутная ў самой чалавечай прыродзе. А таксама, па сваёй сутнасьці, гэта была прага Бога, бо толькі Бог уяўляе ў Самым Сабе сапраўдную ўсемагутнасьць, значыць, сілу; толькі ў Богу сапраўдная свабода і незалежнасьць.

Такім чынам, чалавек, нават нічога ня ведаючы пра Бога, нават выхаваны антырэлігійна, на падставе сваіх прыродных схільнасьцяў імкнецца да абсалютнай Праўды (у маім выпадку — гэта было імкненьне да гістарычнай неабходнасьці камунізму, як выніку заканамернага гістарычнага працэсу). Таксама чалавек імкнецца і да свабоды (у маім выпадку — да свабоды звышчалавека паводле Ніцшэ). Гэта значыць, на самой справе, я несьвядома імкнуўся да Бога. З надыходам расчараваньня ў формах сьветапогляду, імкненьне да Бога застаецца, бо яно ня можа зьнікнуць, таму што яно зьяўляецца часткай нашай прыроды. Гэта правільна і ў адносінах да ўсіх людзей. І гэта адна з прычынаў бесьсьмяротнасьці рэлігіі.

У 19 гадоў я стаў кандыдатам у члены камуністычнай партыі. У той жа час я асабліва адчуў патрэбу ў самасьцьвярджэньні, у жаданьні быць мацнейшым за многіх. Верагодна, нешта падобнае адчувае кожны мужчына. Некаторыя гэтую патрэбу ў сіле рэалізуюць у занятках спортам, але я імкнуўся да душэўнай сілы. У пошуках методыкі выхаваньня ў сабе такой сілы,

акрамя тэорыі Ніцшэ, я зьвярнуўся да гіпнозу, да чорнай магіі. Я практыкаваўся ў засяроджаньні ўвагі, у выпрацоўцы пільнага погляду і ў іншых падобных рэчах. Урэшце, мне ў рукі трапіла тоўстая, раструшчаная кніга без назвы, якую я прыняў за падручнік па чорнай магіі. У ёй было шмат незразумелага для мяне, у тым ліку замовы ад розных хваробаў. Асаблівую ўвагу ў ёй прыцягвала апісаньне спосабу ўваходжаньня ў «транс» з мэтай набыцьця патрэбных ведаў пра што-небудзь. У гэтым прыёме, здавалася, не было нічога асаблівага. Там гаварылася, што калі вы хочаце даведацца, напрыклад, які колер сьценаў пакою вашага знаёмага, у якога вы ніколі не былі, то для гэтага трэба: прыняць выгодную позу і засяродзіцца на пастаўленай мэце, выключыцца ад навакольнага сьвету, значыць, перастаць адчуваць гэты навакольны сьвет. Усё гэта значыла нічога ня бачыць, ня чуць і не адчуваць. Пры асягненьні вамі такога стану ў кнізе абяцалася дасягненьне жаданых ведаў. Я паспрабаваў зрабіць гэта, але ня здолеў. Выключыць сябе з навакольнага сьвету для мяне было цяжка. Аднак, прыблізна праз год, апынуўшыся ў цяжкім стане на экзамене, я ўжыў гэты метад нанова і дабіўся посьпеху.

Быў экзамен па фізіцы, якую я ведаў вельмі дрэнна. Узяўшы білет, я вырашыў выкарыстаць шпаргалкі. Але хутка заўважыў, што, акрамя адказаў на пытаньні з білету, выкладчык па-

трабуе адказ на тры дадатковыя вусныя пытаньні, якія задае кожнаму студэнту. Зьмест гэтых пытаньняў станавіўся вядомым толькі пасьля выхаду да дошкі. Таму дапамогу шпаргалак выкарыстаць было немагчыма. А гэта пагражала атрыманьнем двойкі, ці, у лепшым выпадку, тройкі. Але што было рабіць? І тут я прыгадаў прыём уваходу ў транс і магчымасьць з ягонай дапамогай даведацца пра зьмест гэтых дадатковых пытаньняў. Здавалася, як жа я, атэіст, мог верыць у такую магчымасьць? Але, па-першае, я меў толькі 19 гадоў і ня быў тэарэтычна падрыхтаваным бязбожнікам. Мой атэізм быў усяго толькі верай маладога камуніста. Потым я сустракаў шмат падобных камуністаў, якія насілі амулеты, верылі ў прарочыя сны і розныя забабоны. Па-другое, што толькі ня робіць з чалавекам роспач? Для камуніста атрымаць двойку ці тройку вельмі сорамна. І я вырашыў выкарыстаць «транс».

Паставіўшы мэту даведацца пра зьмест дадатковых пытаньняў, я закрыў вочы, сабраў усю сваю волю, каб адключыцца ад навакольнага сьвету. Што было далей?.. Сёньня я памятаю толькі, што ў маёй галаве зьявілася думка, дакладней — першае пытаньне: «Што такое абсалютная і адносная вільготнасьць?» Я, не расплюшчваючы вачэй, алоўкам (які трымаў нагатове ў руках) запісаў пытаньне. Потым зьявілася новае пытаньне: «Што такое каафіцыент аб’ёмнага пашырэньня цела пры награ-

ваньні?» Я запісаў і гэта. Потым зьявіўся тэкст і трэцяга пытаньня, зьмест якога я ўжо ня памятаю. Запісаўшы гэтыя пытаньні, я выйшаў са стану трансу, адчуваючы сябе вельмі стомленым. З майго твару ручаінкамі ліўся пот, і ва ўсім целе была моцная нярвовая стомленасьць. Адпачыўшы, я дастаў шпаргалкі, запісаў адказы на пытаньні і пачаў чакаць сваёй чаргі на адказ. Калі выкладчык паклікаў мяне, я выйшаў да дошкі, адказаў на пытаньні білету і атрымаў ад яго тры дадатковыя пытаньні, тыя самыя і ў той жа пасьлядоўнасьці, што я запісаў, калі знаходзіўся ў стане трансу. Я адказаў на ўсе і атрымаў адзнаку «пяць».

Як гэта ня дзіўна, але гэтая падзея не прывяла мяне да веры ў Бога. Тады я проста сур'ёзна не задумваўся над гэтым выпадкам. Для мяне быў важны толькі практычны вынік, тое, што я вытрымаў экзамен і атрымаў добрую адзнаку.

Але потым, калі я пачаў мэтанакіравана шукаць Бога, я разважаў над гэтым выпадкам і прыйшоў да наступнай высновы: угадваньне трох дадатковых пытаньняў магло зьдзейсьніцца толькі па адной з трох прычынаў.

Па-першае, калі б гэтыя пытаньні я ўнушыў выкладчыку. Але гэта трэба было выключыць, бо ў гэтым выпадку з майго боку была б патрэбная ўстаноўка на ўнушэньне, але ж я такой устаноўкі ня меў.

Па-другое, я мог бы даведацца пра гэтыя пытаньні праз тэлепатыю. Але для гэтага

выкладчык павінен быў бы мець іх у сваіх думках, папярэдне падрыхтаваўшы іх для мяне за дваццаць хвілінаў да майго выхаду да дошкі. Але выкладчык зрабіць гэтага ня мог, бо ў гэтыя дваццаць мінут ён прыняў экзамен у 3-4 студэнтаў, і дадатковыя пытаньні ім імправізаваліся.

Па-трэцяе, калі першыя дзьве прычыны не тлумачаць угадваньня, застаецца прапанаваць існаваньне нейкай трэцяй істоты, якая ведала гэтыя пытаньні. Так як веданьне гэтых пытаньняў значыла веданьне будучыні, а веданьне будучыні можа мець толькі той, хто знаходзіцца па-за часам, то тым, хто ведае будучыню, мог быць толькі Бог, бо толькі Ён існуе па-за часам.

Паўтаруся, я ў той час сур’ёзна не задумваўся пра тое, што са мной здарылася, і таму працягваў жыць атэістам.

Разьдзел 2

## Першае знаёмства з хрысьціянствам на свабодзе, першая сустрэча з Богам у вязьніцы

Прыблізна ў 19 гадоў у мяне зьявіліся крытычныя погляды на палітыку тагачаснага нашага партыйнага кіраўніцтва, гэта значыць на Сталіна. Я лічыў сябе камуністам і быў выхаваны на героях першых гадоў рэвалюцыі. Мне, як маладому камуністу, вельмі падабаўся рэвалюцыйны пафас, рамантызм, рэвалюцыйная адданасьць, прынцыповасьць камуністаў і камсамольцаў 20-ых гадоў. Лозунгі пра сусьветную рэвалюцыю, пра бязьлітаснасьць да ворагаў рэвалюцыі, рэвалюцыйныя песьні — усё гэта мне вельмі падабалася ў тыя часы. І вось пасьля вайны я ўбачыў, што ўсяго гэтага ў нашай краіне засталося вельмі мала.

Замест сусьветнай рэвалюцыі — размовы пра мір. Замест бязьлітаснасьці да ворагаў рэвалюцыі — сяброўства з Праваслаўнай Царквой (тады адчыніліся раней зачыненыя цэрквы і семінарыі). Замест рэвалюцыйнага энтузіязму масаў — мяшчанскія інтарэсы большасьці людзей. Чытаючы Леніна, я знаходзіў неадпаведнасьць некаторых ягоных палажэньняў практыцы пасьляваеннага жыцьця. Да ўсяго гэтага дадалася асабістая антыпатыя да Сталіна як да чалавека з выгляду флегматычнага, што, здавалася, супярэчыла гарачым тэмпераментам рэвалюцыйных правадыроў.

І, натуральна, лічачы, што рыба псуецца з галавы, я пачаў марыць пра вяртаньне партыі да ленінскай мінуўшчыны. Гэтак я стаў крытыкам тагачаснага рэжыму зьлева, як мне тады здавалася, з пазіцыяў ленінізму.

У той час у мяне ўпершыню зьявілася цікавасьць да хрысьціянства як да ідэалогіі, якую трэба зьнішчыць (Сталін жа, як я тады лічыў, занадта цярпеў хрысьціянства). Але, каб змагацца за зьнішчэньне хрысьціянства, трэба было ведаць тое, што хацеў зьнішчыць. Таму я і пачаў вывучаць хрысьціянства. Спачатку я прачытаў кнігу вядомага французскага пісьменьніка-бязбожніка Рэнана. Называлася яна «Жыцьцё Ісуса Хрыста»; потым я пачаў чытаць Новы Запавет і нават спрабаваў дастаць Стары Запавет, але не пасьпеў, бо быў арыштаваны па абвінавачваньні ў антысавецкай дзейнасьці.

А зараз некалькі слоў пра тое, чаму я ў свае 19-20 гадоў так ненавідзеў хрысьціянства. Прычына гэтага была ў тым, што мне ўнушылі ў школе, што хрысьціянства нібыта заклікае да капітуляцыі перад злом, заклікае да непраціўленьня злу насільлем, гэта значыць, яно робіць людзей рабамі, пазбаўляе іх свабоды і, такім чынам, пазбаўляе асобу чалавечай годнасьці. Навучылі мяне ў школе таксама, што хрысьціянства сваёй пасіўнасьцю перашкаджае пабудове лепшага чалавечага грамадзтва.

Я паверыў гэтаму намоўленаму мне ў школе, бо ведаў у той час пра хрысьціянства толькі з дзейнасьці праваслаўя і з вучэньня сектанта Льва Талстога. А ўсё гэта толькі ўмацоўвала гэты школьны погляд на хрысьціянства. Акрамя таго, і ў Новым Запавеце я знайшоў цытаты, якія, як здавалася, пацьвярджалі тэзісы атэістычнае прапаганды. Апошняе яшчэ раз сьведчыць пра тое, што Каталіцкая Царква мела рацыю, калі ня раіла чытаць Біблію без адпаведнага тлумачэньня яе з боку Царквы. Каб правільна зразумець Біблію, трэба вывучаць яе сур'ёзна, а гэта немагчыма без навуковага каментару з боку духавенства.

Арышт для мяне быў цяжкім ударам, і, найперш, па маім самалюбстве. Гэтым я быў пазбаўлены магчымасьці зрабіць кар'еру ў камуністычным руху. А трэба зазначыць, што ў той час я хацеў быць партыйным работнікам. З гэтай мэтай я нават паступіў на гістарычны фа-

культэт універсітэту, актыўна ўдзельнічаў у грамадзкай працы.

Арышт страшэнна спустошыў маю душу. Знаходзячыся каля сарака дзён у адзіночнай камеры, я тапіў сваё гора чытаньнем кніг з турэмнай бібліятэкі.

У вязьніцы да мяне трапілася апавяданьне Льва Талстога «Айцец Сергій». Я прачытаў яго ўпершыню. Цяпер я ня памятаю калі — ў час чытаньня гэтай кнігі, ці пасьля — са мною здарылася небывалае: я адчуў прысутнасьць Бога так, як адчуваў бы прысутнасьць у маім пакоі іншага чалавека, ведаючы, што ён у пакоі, але ня бачачы яго пры заплюшчаных вачах... Я ўпаў на калені і ўпершыню ў жыцьці стаў маліцца. Як? Словамі з эпіграфа Л.Талстога да апавяданьня «Айцец Сергій», якія былі ўзятыя з Евангельля: «Госпадзе, верую, дапамажы майму нявер'ю». Я дрэнна разумеў значэньне другой паловы гэтага выразу. Чаго ж прасіць дапамогі нявер'ю, калі трэба дапамагчы паверыць. Але чамусьці я быў упэўнены, што гэты выраз правільны і я проста не разумею ягонай логікі. Гэты стан адчуваньня прысутнасьці Божай працягваўся тры дні.

Аналізуючы сёньня гэтую падзею, я тлумачу яе наступным чынам. Я шукаў праўду, шукаў сэнс жыцьця — гэта было добра, бо сказана: «Шчасьлівыя тыя, хто жадае і прагне праўды, бо яны насыцяцца» (Мц 5, 6). Але я быў поўны пыхі — і гэта было дрэнна. «Ганарлівым Бог

супрацівіцца, пакорным дае Божую ласку». Пыха перашкаджае чалавеку бачыць праўду. Атрымоўваўся парадокс: з аднаго боку, я прагнуў праўды; з іншага боку — я заплюшчваў на яе вочы і таму мог бачыць праўду толькі ў тым, што падабалася майму самалюбству, гэта значыць я фактычна пазбаўляў сябе магчымасьці пазнаць гэтую праўду. Калі я апынуўся ў вязьніцы, пыха ў мяне зьнікла. Ганарыцца ўжо не было чым. Бо я пацярпеў такую страшэнную паразу: будучы камуністам, змагаўся за камунізм і пацярпеў ад камунізму. Калі б я быў арыштаваны фашыстамі ці якой-небудзь іншай антыкамуністычнай уладай — о! тады б я захаваў сваю пыху і ў турме. Але атрымаць удар ад сваіх! Гэта было невыносна. Мая пыха была растаптаная. Вядома, я спрабаваў аднавіць сваю пераможаную пыху, спрабаваў абаперціся на Леніна і ягоныя ідэалы, супрацьпаставіць сябе, ленінца, ім — сталіністам. Але спачатку я ня думаў, што паміж імі магла быць такая бязьлітасная барацьба, мне здавалася, што ўсе мы аднадумцы ў барацьбе за агульную справу і я не заслугоўваю такой жорсткай расправы. Калі ж я зразумеў, што барацьба ўнутры партыйных плыняў можа быць такой жа жорсткай, як і барацьба з класавым ворагам, мне стала лягчэй. Але разуменьне гэтага прыйшло не адразу. А пакуль у турэмнай адзіночнай камеры маё «я» прагнула праўды і вызвалілася ад пыхі. І вось менавіта тады Божая ласка, якую так шчодра

дае Госпад, пралілася ў маю душу. Бог скарыстаў твор Льва Талстога «Айцец Сергій», у якім аўтар сілаю свайго мастацкага слова здолеў перадаць нешта містычнае, што закранула маю душу і зрабіла яе гатовай да прыняцьця Божае ласкі.

Але мінулі гэтыя тры дні, мінулі яшчэ месяцы сьледзтва. Я быў асуджаны на некалькі гадоў і пасьля суда апынуўся ў перасыльнай турме, адкуль нас павінны былі адправіць у працоўны лагер. У гэтай вязьніцы я спаткаўся з адным сваім знаёмым. Ён стаў даказваць мне існаваньне Бога. Я ж даказваў, што Яго няма.

Дзіўна, як жа ж так: тры-чатыры месяцы таму я верыў у Бога, адчуваў Ягоную прысутнасьць, а цяпер зноў адмаўляў Ягонае існаваньне! На жаль, ад той пары мінула шмат часу, і я дрэнна памятаю ўсе тагачасныя памкненьні маёй душы, і таму не магу падрабязна вытлумачыць тое, што здарылася. Але сутнасьць гэтага зразумелая.

Ласка Божая, якая пралілася ў маю душу, нарадзіла, урэшце, веру ў Бога. Але гэтая вера не была падмацаваная разумовымі доказамі. І са зьнікненьнем яе асновы — Божай ласкі, якая выклікала пачуцьцё прысутнасьці Бога, зьнікла і самое пачуцьцё веры. Разумовыя ж асновы майго сьветапогляду былі атэістычныя. І, захоўваючы іх у памяці як ланцуг фактаў і разумовых высноў, заснаваных на логіцы, я захаваў перакананасьць у адсутнасьці Божага існаваньня.

 

Падзея гэтая сьцьвярджае правільнасьць навукі Каталіцкай Царквы аб першаснасьці ў чалавеку розуму над пачуцьцямі і пацьвярджае значэньне рацыяналістычнага метаду філасофіі сьвятога Тамаша Аквінскага. Безумоўна, прыйсьці да веры ў Бога бяз Божае ласкі немагчыма, але немагчыма і ўтрымацца ў веры, калі не ўдзяляць увагі рацыянальнаму абгрунтаваньню веры. Бо пачуцьці чалавечыя як вецер, а ласка Божая не прымушае чалавека да веры сіламоц, бо Бог паважае свабоду чалавека. Божая ласка адно толькі заклікае чалавека да Бога, а не прывязвае яго да Бога без удзелу самога чалавека.

Бог паклікаў мяне Сваёю Ласкай, але прывязаць сябе да Яго тады я ня здолеў. Ва ўмовах сьледчай вязьніцы я ня здолеў зрабіць перагляд уласных разумовых перакананьняў, бо ў той час у мяне не было ані адпаведнай крыніцы ведаў, ані асаблівага жаданьня, а ні патрэбных умоваў.

Разьдзел 3

# Сустрэча з хрысьціянамі ў турме і душэўны крызіс

З перасыльнай турмы вязьняў рассылалі па працоўных лагерах. Надыйшла і мая чарга. Як палітычны вязень, я быў накіраваны ў сьпецыяльны лагер, прызначаны толькі для тых, што былі асуджаныя па палітычных матывах. Ехалі мы да месца прызначэньня ў так званых «сталыпінскіх» вагонах: звонку яны падобныя на пасажырскія, але ўсярэдзіне перарobленыя для перавозкі вязьняў. Па дарозе мы затрымліваліся ў перасыльных турмах.

У адной з такіх вязьніцаў, у нейкім вялікім горадзе, у мяне адбылося спатканьне з хрысьціянамі. Да якой хрысьціянскай канфесіі яны належалі, я цяпер ужо ня памятаю, але добра

памятаю, што менавіта з імі ў мяне адбылася першая спрэчка на тэму хрысьціянства.

На хрысьціянства я заўсёды глядзеў ня толькі з эсхаталагічнага пункту гледжаньня (гэта значыць, з улікам персьпектывы пасьлясьмяротнага лёсу чалавека), але і з сацыяльнага, зямнога. Мяне заўсёды ў хрысьціянстве цікавіла ягонае значэньне, роля ў пабудове добрага зямнога жыцьця. Я заўсёды лічыў, што хрысьціянства павінна клапаціцца ня толькі пра збаўленьне душы, але мусіць быць яшчэ і сродкам для зьдзяйсьненьня сацыяльнай справядлівасьці.

І вось па гэтым пункце ў мяне і атрымалася нязгода з тымі хрысьціянамі-«сектантамі». Яны баранілі прынцып несупраціўленьня злу насільлем. Яны адмаўлялі нават хрысьціянскую самаабарону. Згодна з іх навукай хрысьціянін быў зусім безабаронны перад нягоднікамі. Ён павінен быў адно толькі цярпець усе зьдзекі над сабою, не аказваючы фізічнага супрацьдзеяньня насільнікам. Такое разуменьне хрысьціянства для мяне было абсалютна чужое. Але знаёмства з тымі хрысьціянамі сталася для мяне першай інфармацыяй пра існаваньне хрысьціянскай апазіцыі ў краіне, якую ўяўляла супольнасьць вернікаў.

Праз некалькі дзён мяне прывезьлі ў працоўны лагер. Ён зьдзівіў мяне разнастайнасьцю людзей, што там знаходзіліся. Тут былі людзі розных сьветапоглядаў, нацыянальнасьцяў,

прафесіяў, узростаў. Тут былі атэісты розных палітычных кірункаў; былі тут і розныя вернікі: дэісты, хрысьціяне, мусульмане, юдэі, будысты і нават сінтаісты. Асабліва шмат было хрысьціянаў. Напачатку я быў заняты прыстасаваньнем да лагернага жыцьця: знаёміўся з людзьмі, наладжваў сяброўскія сувязі, шукаў сабе магчымасьць больш лёгкага існаваньня ў лагеры. Потым у мяне пачала праяўляцца цікаўнасьць. У лагеры была магчымасьць пачуць пра шмат якія рэчы, пра якія на волі нават краем вуха не пачуеш. Было вельмі цікава даведвацца пра гэтае новае і выпрацоўваць да яго ўласнае стаўленьне.

Урэшце надышоў момант, калі мне трэба было задумацца пра сваю будучыню ў далёкай персьпектыве. Што я буду рабіць пасьля турмы? Адказаць на гэтае пытаньне я мог толькі пасьля папярэдняга вырашэньня для сябе самога пытаньня пра сэнс жыцьця наогул.

Вядома, што кожная важная справа вырашаецца з удзелам розуму і волі (сэрца і пачуцьця). Воля ж мая была прыгнечаная маім паражэньнем. Маючы веру ў непераможнасьць савецкага ладу і бачачы сваю адкінутасьць гэтай сістэмай, я лічыў, што мне ўжо ня будзе месца ў камуністычнай партыі і, такім чынам, я ўжо пазбаўлены даверу для ўсялякага актыўнага ўдзелу ў грамадзкім жыцьці ў адпаведнасьці з уласнымі здольнасьцямі. Мала таго, я разумеў, што і пасьля вызваленьня з лагеру я буду зна-

ходзіцца пад сталым кантролем КГБ і пры самым нязначным праяўленьні нелаяльнасьці зноў буду арыштаваны. Таму я, не жадаючы больш пакутаваць, вырашыў пасьля вызваленьня пачаць спакойнае, сьціплае і непрыкметнае жыцьцё вясковага жыхара, цікавіцца выключна прыватнымі справамі і не ўвязвацца ні ў якія канфліктныя сітуацыі, а тым больш у палітычныя ды ідэалагічныя.

Страх перад перасьледаваньнямі накіраваў маю волю да мяшчанскіх інтарэсаў, да стварэньня сабе ў будучыні мяшчанскага дабрабыту. Я захапіўся тэарэтычным вывучэньнем сельскай гаспадаркі, марыў пасьля вызваленьня заняцца працай на прысядзібным кавалку зямлі. Але гэта працягвалася нядоўга. Вельмі хутка я адчуў незадаволенасьць ад жыцьця марамі пра мяшчанскі рай і асабісты дабрабыт. Такое жыцьцё мне здалося вельмі сумным, нецікавым. І мяне нанова пацягнула да высокіх праблемаў, да дасьледаваньня пытаньня пра сэнс жыцьця, якое разумелася б як служэньне праўдзе, што атаясамлівалася ў маім разуменьні са служэньнем грамадзкаму дабру, людзям.

Аналізуючы цяпер мой тагачасны стан душы, трэба прызнаць рацыю, якую меў Ісус Хрыстос, калі сказаў: «Ня хлебам адзіным будзе жыць чалавек». У чалавечую прыроду ўкладзена жаданьне ня толькі валодаць чымсьці, але і належаць камусьці, быць патрэбным для кагосьці. Але быць патрэбным — гэта значыць

самасьцьвярджэньне, прызнаньне кімсьці тваіх здольнасьцяў, заслугаў і гэтак далей.

Сапраўды, і ў жыцьці дзеля ўласнага дабрабыту, пра які я марыў, я таксама камусьці патрэбны, верагодна, будучай карове, свойскім птушкам і інш. Але гэта іншае вымярэньне. Напэўна, для чалавека зьяўляецца большым самасьцьвярджэньнем, а такім чынам і задавальненьнем, магчымасьць належаць, служыць істотам, якія роўныя яму ці вышэйшыя за яго, чым служыць істотам, якія знаходзяцца ніжэй за яго. Адна справа разумець, што ты патрэбны свойскім птушкам, іншае — людзям, і зусім іншае — Богу.

Чым вышэй годнасьць таго, каму ты патрэбны, тым вышэйшая і твая ўласная каштоўнасьць і твая асабістая годнасьць.

## Разьдзел 4

# Сістэматычнае вывучэньне рэлігіі

Я нанова пачынаю бачыць сэнс свайго жыцьця ў служэньні чалавецтву. Верагодна, з гэтай прычыны мяне ўжо не задавальняў ідэал асабістага дабрабыту. Мяне зноў прыцягвала праблема сацыяльнай справядлівасьці, ідэал увасабленьня зямнога шчасьця для ўсіх людзей.

Мой пошук вырашэньня гэтай праблемы пачаўся з дасьледаваньня вядомай формулы, якая характарызавала камуністычнае грамадзтва: «ад кожнага паводле ягоных здольнасьцяў, кожнаму паводле ягоных патрэбаў». Аналіз я пачаў з другой паловы формулы «кожнаму па ягоных патрэбаў».

Ці магчыма пабудаваць грамадзтва, дзе спажываньне зьдзяйсьняецца паводле патрэбаў? Паразважаўшы, я зразумеў, што патрэбы абумоўліваюць вытворчасьць. Таму вытворчасьць

заўсёды адстае ад патрэбаў і ніколі ня можа поўнасьцю задаволіць патрэбнасьці ўсяго насельніцтва.

Так, напрыклад, калі ўсе задаволілі свае патрэбнасьці ў тэлефоне і толькі што быў прыдуманы тэлевізар, то ўзьніклая патрэбнасьць у новым тавары некаторы час магла быць задаволена толькі для мінімальнай меншасьці, і толькі з часам трохі большай колькасьці людзей, потым для большасьці і, урэшце, для ўсіх.

Ад пачатку вытворчасьці новых тавараў да задавальненьня патрэбаў у іх для ўсіх існуе разрыў паміж попытам і прапановай, паміж патрэбнасьцю і вытворчасьцю. Гэты разрыў такі, што вытворчасьць заўсёды адстае ад патрэбнасьці.

Пры эгаістычным сьветапоглядзе мала хто з людзей добраахвотна адмовіцца на карысьць іншага ад задавальненьня сваёй патрэбнасьці ў новым тавары. А таму ў разьмеркаваньні новых тавараў непазбежны так званы «блат», злоўжываньне службовым становішчам, зайздрасьць і гэтак далей. Пры гэтым можа здарыцца, што той, хто больш за іншых мае патрэбу ў новым тавары, атрымае яго ў апошнюю чаргу, а гэта несправядліва. Дзеля ажыцьцяўленьня права на тавар для тых грамадзянаў, што ў ім маюць большую патрэбу, грамадзтва вымушана будзе стварыць асобы орган улады для разьмеркаваньня новых тавараў сярод тых, што маюць у ім вострую патрэбу. Такім чынам, прынцып «кожнаму паводле патрэбаў» робіцца такім разь-

 

меркаваньнем тавараў, пры якім патрэбнасьць разумеецца ўжо не як поўнае задавальненьне патрэбаў, а як задавальненьне патрэбаў толькі тых, што маюць патрэбу ў гэтым тавары ў першую чаргу. Астатнія ж на нейкі час пазбаўляюцца гэтага тавару. Такім чынам, у камуністычным грамадзтве існуе неабходнасьць у нейкай уладзе — у насільлі над большасьцю насельніцтва, што ўжо ня ёсьць ідэальным. А калі прадстаўнікі гэтай улады настолькі ж эгаістычныя, як і насельніцтва (што непазьбежна, бо людзі зьяўляюцца прадуктам свайго асяроддзя, яго выхаваньня), то разьмеркаваньне новых тавараў ажыцьцяўляецца нядобрасумленна, і гэта робіць такое грамадзтва вельмі далёкім ад ідэалу.

Падобнае ж атрымліваецца і з першай паловай прынцыпу: «ад кожнага паводле здольнасьцяў». Бо ж не існуе дзейнасьці аднолькава прыемнай ва ўсім. Кожны чалавек, зазвычай, імкнецца выбраць для сябе прыемны тып дзейнасьці. Але прыемных відаў дзейнасьці аказваецца менш, чым колькасьць тых, што хацелі б ёй займацца. А адсюль узьнікае канкурэнцыя ў атрыманьні працы. І тады зноў узьнікае неабходнасьць у стварэньні асаблівага органу ўлады, які б вызначаў, хто ж з гэтых «здольных» да прыемных відаў дзейнасьці сапраўды здольны (ці больш здольны, чым іншыя), а хто ўвогуле няздольны (ці здольны менш за іншых). І ў гэтым выпадку зьяўляецца

аўтакратычная ўлада, якая, дзякуючы эгаізму, будзе дзейнічаць несправядліва, і прынцып «ад кожнага паводле здольнасьцяў» для ўсіх робіцца неажыцьцяўляльны.

Дасьледуючы розныя формы чалавечага супольнага жыцьця, я адкрыў, што прынцып камунізму «ад кожнага паводле ягоных здольнасьцяў, кожнаму паводле ягоных патрэбаў» ажыцьцяўляецца толькі ў маральна здаровай сям'і ды ў манастве.

Так, у сям'і часта найменш здольны член сям'і спажывае больш за тых, хто больш здольны (напрыклад, хворае дзіця). Тое самае і ў манастве. Захаваньне ж камуністычнага прынцыпу ў сям'і аказваецца магчымым толькі пры ўзаемнай любові і павазе паміж сужонкамі і іншымі членамі сям'і. Пазбаў іх гэтае любові, і сям'я разваліцца. У манастве ж захаваньне камуністычнага прынцыпу робіцца магчымым толькі дзякуючы выхаваньню манахаў у духу любові да Госпада і да блізкіх.

Такім чынам, мне стала зразумела, што пабудова камуністычнага грамадзтва ў адпаведнасьці з прынцыпам «ад кожнага паводле ягоных здольнасьцяў, кожнаму паводле ягоных патрэбаў» магчымае толькі ў высока маральным грамадзтве.

Тады я запытаўся ў самога сябе: а дзе я бачыў высокамаральнае грамадзтва?

Да таго часу я ўжо дастаткова пазнаёміўся з маральнасьцю розных групаў лагернага на-

 

сельніцтва, з іх сьветапоглядамі. Абмяркоўваючы гэтае пытаньне без прадузятасьці, я павінен быў прызнацца самому сабе, што найбольш маральнымі, добрымі, сумленнымі, чыстымі і велікадушнымі людзьмі былі людзі з рэлігійным сьветапоглядам. Каб прыйсьці да гэтай высновы, ня трэба было ставіць нейкі штучны вопыт, ня трэба было ніякай філасофіі. Дастаткова было толькі ўважліва назіраць.

Рэлігійныя людзі не хамілі, нікога не абражалі, былі ўраўнаважаныя — не псіхавалі, былі ўважлівыя да ўсіх людзей, шмат у чым дапамагалі сваім і нават чужынцам, трымаліся разам і гэтак далей.

І тады ў мяне ўзьнікла пытаньне: што ж зрабіла іх у маральным сэньсе лепшымі за іншых людзей? Няўжо рэлігія? Чаму?

Безумоўна, ня ведаючы рэлігіі, я ня мог адказаць сабе на гэтыя пытаньні. Таму, жадаючы зразумець прычыны гэтай зьявы, я распачаў сістэматычнае вывучэньне рэлігіі, наколькі гэта было магчыма ў лагерных умовах.

Вывучаць рэлігію давялося, галоўным чынам, праз размовы з адукаванымі рэлігійнымі людзьмі і праз чытаньне Бібліі. Невялікія веды пра рэлігію я атрымаў таксама з падручнікаў па гісторыі, прызначаных для студэнтаў ВНУ. Нешта ўзяў таксама з кніг самага рознага зьместу, што выпадкова апынуліся ў лагеры, і з атэістычнай літаратуры.

Напачатку трэба было разабрацца: што такое Бог у разуменьні сучасных монатэістычных рэлігіяў. Гэта было вельмі важна. У значнай большасьці насельніцтва нашай тагачаснай краіны паняцьце пра Бога знаходзілася на паганскім узроўні. У школе людзі вывучалі гісторыю Старажытнага Ўсходу, Грэцыі, Рыму, дзе паняцьце «бог», «богі» прыпісвалася царам, героям, планетам, небасхілу, сонцу. Вось чаму для большасьці маладых людзей Бог (ці богі) уяўляўся ў чалавечым выглядзе, і гэтаму ў значнай ступені таксама садзейнічала тое, што мастакі падавалі Бога ў выглядзе дзядулі з барадой, а таксама і тое, што моладзь нічога ня ведала аб вучэньні пра боскасьць Хрыста ў сьвятле навукі пра Найсьвяцейшую Тройцу.

Многія мяркуюць, што калі хрысьціяне называюць Хрыста Богам, то гэта значыць, што Бог — гэта чалавек, нешта матэрыяльнае.

Разьдзел 5

# Выбар хрысьціянства

Вельмі часта бывае, што, разглядаючы нейкі вынік чалавечае працы (напрыклад, аўтамабіль), мы захапляемся ягонай здольнасьцю зьдзяйсьняць патрэбную людзям работы, дакладнай працай механізму для выкананьня пэўнай задачы, мэты (напрыклад, як гадзіньнік паказвае час), элегантнасьцю створанай канструкцыі (напрыклад, гатычнага сабору). Мы праслаўляем стваральнікаў цудоўных машын, механізмаў, забудоў за іх выдатныя разумовыя здольнасьці, за творчы палёт думкі, называем іх геніямі, узнагароджваем такіх людзей, пішам пра іх кнігі, ставім помнікі, назаўсёды запамінаем іхнія імёны.

Але калі прыгледзецца да ўладкаваньня сусьвету, да прыродных зьяваў, да канструкцыі асобных рэчаў ды іх узаемадзеяньню ў прыродзе, то ці ж ня выкліча ўсё гэта яшчэ большае захапленьне, чым вынік чалавечай дзейнасьці?

Дастаткова ўзяць анатамічны атлас чалавека (лепш каляровы) і пільна разгледзець пабудову асобных чалавечых органаў: сэрца, мозгу, брушыны, лёгкіх ці выяву цэнтральнай і перыферыйнай нярвовых сістэмаў, касьцявой сістэмы, вялікага і малога колаў кровазвароту. Калі падрабязна азнаёміцца з канструкцыяй і ўзаемадзеяньнем усіх частак чалавечага цела, органаў, тканак, сістэмаў, клетак, дык ці ж можна не захапіцца ўсім гэтым і не ўславіць прыроду, якая, паводле меркаваньня атэістаў, стварыла ўсё гэта?

Вось прыблізна ў такім напрамку пачала разьвівацца мая думка пасьля размоваў з рэлігійнымі людзьмі на тэму існаваньня Бога.

Прыпісаць прыродзе стварэньне чалавека? А стварэньне прыроды прыпісаць матэрыі, якая вечна існуе ў нейкай першапачатковай форме? Напрыклад, у форме распаленай туманнасьці, як пра гэта мяркуе атэістычная навука (заўважым, толькі мяркуе і ніколі дакладна ня ведала і ня будзе ведаць, бо гэта былі часы дагістарычныя).

Вядома, меркаваць гэтак магчыма, але наколькі ж правільнае такое меркаваньне?

Вось перада мной камень — часьцінка прыроды. Або нейкая колькасьць атамаў распаленай туманнасьці. Узятыя самі па сабе, у халодным ці вогненным стане, гэта — часткі матэрыі... Ці ж ім не ўсё адно, як будзе створаны ў будучыні чалавечы арганізм? Вядома ж, усё адно.

Ці будзе сэрца зьмешчанае ў клетку з рэбраў ці не; ці будзе яно аддзеленае дыяфрагмай ад брушыны; ці будзе чалавечая зрэнка ў воку сьціскацца ад сьвятла і пашырацца ў цемры; ці будзе ў дзяўчыны дзявочая плява ці ня будзе? Ці ж ня ўсё адно гэта нейкаму атаму распаленай туманнасьці або бяздушнаму халоднаму каменю!

Але ж чалавеку гэта ня ўсё адно. Ён да гэтага неабыякавы. Шмат зьмеліцца ў ягоным жыцьці, калі арганізм ягоны будзе сфармаваны іншым чынам, на іншы лад.

Значыцца, чалавечы арганізм пабудаваны не хаатычна і бяздумна, але з нейкім сэнсам, як кажуць, мэтазгодна, гэта значыць, адпаведна ўмовам жыцьця і функцыям, задачам гэтага арганізму. Адсюль вынікае, што для стварэньня ўвогуле чаго-небудзь мэтазгоднага патрэбная асаблівая здольнасьць, якая мае назоў «розум»!

Падобна на тое, як для стварэньня аўтамабіля, гадзіньніка, сабору ў гатычным стылі, створаных мэтазгодна, недастаткова аднаго толькі бяздушнага каменя і палаючага атама, але неабходны таксама чалавечы розум — здольнасьць ствараць нешта мэтазгоднае, так і для стварэньня чалавечага арганізму, ды й усяго таго, што існуе на сьвеце, патрэбна разумная прычына сусьветнага маштабу, якая, як мне вытлумачылі, у рэлігійным сьветапоглядзе завецца Богам.

Бог, аднак, мае ня толькі розум, але і волю, бо кожны творчы акт, акрамя розуму, павінен

уключаць у сябе і дзеяньне, якое зьдзяйсьняецца воляй.

Акрамя таго, для чагосьці, створанага ў выніку чалавечага дзеяньня і волі, неабходныя яшчэ й пэўныя якасьці, дасканаласьць душы. Напрыклад, мастак павінен мець пачуцьцё прыгожага, веды, маральныя якасьці, гэта значыць, мець пэўную ступень дасканаласьці, якую ён выказвае ў сваіх творах. Такім чынам, і Бог, акрамя розуму й волі, мае яшчэ ўсялякія дасканаласьці, якасьці, якія мы маем магчымасьць назіраць у навакольным сьвеце.

І вось мне вытлумачылі, што Бог — гэта сума ўсіх дасканаласьцяў, якія толькі могуць існаваць у сьвеце, і першапрычына сьвету. Бог — гэта сума ўсяго разумнага, прыгожага, справядлівага, міласэрнага і інш. Пры гэтым, Ён існуе ў вечнасьці і бясконцасьці. Мне вытлумачылі, што ў сьвеце, акрамя матэрыі, што валодае якасьцямі працягласьці ў прасторы, дзялімасьці, інэртнасьці, неразумнасьці, маецца яшчэ духоўная субстанцыя з якасьцямі непрацяглfavoriteсьці ў прасторы, недзялімасьці, самаадвольнасьці, разумнасьці. Бог ёсьць духам, а не матэрыяй, і існуе Ён заўсёды, а значыць, вечна.

Немагчыма было не згадзіцца з тым, што для стварэньня такога мэтазгоднага, грандыёзнага і прыгожага сьвету патрэбна нейкая асаблівая істота, якая валодае ўсімі неабходнымі для стварэньня сьвету дасканаласьцямі і якасьцямі. І справа ня ў тым, як Яго называць: Бог, Абсалют ці Сусьветны Розум.

 

Бо адкуль маглі б узяцца рэчы ў сьвеце і сам сьвет з усімі сваімі якасьцямі і сэнсам свайго існаваньня, калі ў пачатку не было нічога, акрамя неразумнай, інэртнай, абыякавай да ўсяго распаленай матэрыяльнай туманнасьці? Як напісана ў пасланьні апостала Паўла да Рымлянаў: «Бо нябачнае Яго, вечная сіла Яго і Боскасьць, ад стварэньня сьвету праз разважаньне аб творах бачным робіцца» (Рым 1, 20).

Атэістычная філасофія сьцьвярджае, што ўся разнастайнасьць якасьцяў сучаснага сьвету знаходзілася ў распаленай туманнасьці, нібыта ў зародышы, была запраграмавана ў малекуле, у атаме і гэтак далей. Але сучасная навука не знайшла ніякай такой праграмы ў малекулах. Нават сама такая праграма (калі б яна і была) з пэўнымі матэрыяльнымі законамі, ды й сам прынцып мэтазгоднага разьвіцьця матэрыі і структура атаму ня сьведчаць, што і тут не абыйшлося без нейкага Вышэйшага Розуму? Бо ўсё, што потым дае мэтазгодны вынік, які б утрымоўваў у сабе пэўны сэнс, павінна мець разумную прычыну, а значыць — Бога. Прыпісаць розум прыродзе, як гэта робяць атэісты, значыць атаясамліваць Бога-Розум з прыродай-матэрыяй. Гэта значыла б тое самае, што атаясамліваць гадзіньнікавы механізм з майстрам-вынаходнікам, стваральнікам гадзіньніка, але гэта ж зусім абсурдна!

Такім чынам, я пераканаўся ў існаваньні Бога. Чытаючы Евангельле, я адчуў існаваньне Бога. Але адчуў я Яго ня так як раней (у

сьледчай турме), адчуў не прысутнасьць Яго каля сябе, а адчуў страх перад Богам.

Я зразумеў таксама, што калі Бог стварыў чалавека, то Ён павінен быў даць яму, акрамя фізічных законаў існаваньня, і маральныя законы жыцьця. А гэта значыць, што вырашэньне праблемы сацыяльнай справядлівасьці трэба таксама шукаць у навуцы Божай, якая ёсьць сумай усіх дасканаласьцяў!

І вось, я прыняў Бога. Але ж да якой рэлігіі мне зьвярнуцца? Выбар гэты зрабіць было цяжка, ды й самыя магчымасьці выбару тут былі абмежаваныя. Можна было выбіраць толькі з наступнага: юдаізм, хрысьціянства і мусульманства, бо адукаваныя вернікі толькі гэтых рэлігіяў былі ў маім тагачасным асяроддзі і служылі мне крыніцамі ведаў.

Юдаізм для мяне адпаў з-за ягонай нацыянальнай абмежаванасьці, бо распаўсюджаны ён толькі сярод габрэяў, і калі не габрэй прымае яго — робіцца габрэем. Я ж па сваім характары быў інтэрнацыяналістам, і любая нацыянальная абмежаванасьць мне была непрыемная.

Мусульманства я адхіліў тады з прычыны яго недастатковай духоўнай глыбіні і маральнай вышыні. Ужо пазьней, калі прачытаў Каран, я яшчэ раз пераканаўся, што мусульманства на самой справе духоўна менш глыбокае, менш узвышанае, чым хрысьціянства.

Такім чынам, для мяне заставалася толькі хрысьціянства. І я абраў хрысьціянства.

Разьдзел 6

# З хрысьціянскіх канфесіяў аддаю перавагу каталіцтву

Калі я прыйшоў да высновы, што маёй рэлігіяй зьяўляецца хрысьціянства, то я апынуўся перад складаным пытаньнем. Да якой жа з хрысьціянскіх канфесіяў мне далучыцца? Іх так шмат! Каталіцтва, праваслаўе, розныя пратэстанцкія дэнамінацыі...

Каб выбіраць, трэба было спачатку азначыць крытэрыі сапраўднасьці Царквы. Я паразважаў і прыйшоў да высновы, што галоўным крытэрыем тут зьяўляюцца словы самога Хрыста: «І Я кажу табе: ты ёсьць Пётр (камень) і на камені гэтым Я збудую Царкву Маю, і брамы пякельныя не адолеюць яе» (Мц 16, 18).

З гэтых словаў вынікаюць тры высновы:

1) Сапраўдная Царква Хрыстовая можа быць толькі адна.

2) Сапраўдная Царква Хрыстовая павінна быць заснаваная на Апосталу Пятру, яна павінна мець пераемнасьць ад Пятра — галавы Апосталаў. Пераемнікамі ж Апостала Пятра зьяўляюцца Рымскія папы.

3) Сапраўдная Царква Хрыстовая непераможная і незьнішчальная.

Разглядаючы гісторыю сучасных пратэстанцкіх дэнамінацыяў, я ўбачыў, што ніводная з іх ня мае ня толькі пераемнасьці ад Апостала Пятра, але й увогуле не бярэ свайго пачатку ні ад аднаго з Апосталаў. Нават самі пратэстанцкія аўтары адлічваюць зьяўленьне сваіх Цэркваў з больш блізкіх да нас часоў, чым часы Апосталаў. Напрыклад, баптысты ня могуць назваць ні аднаго свайго спаўбрата-баптыста з III-X ці хаця б з XV стагоддзя.

Калі ж яны і сьцьвярджаюць, што першыя хрысьціяне апостальскіх часоў і былі баптыстамі, то ўзьнікае пытаньне: а чаму ж вас не было тады — у часы ад першага стагоддзя пасьля Нараджэньня Хрыстовага да XVIII стагоддзя, даты вашага афіцыйнага ўзьнікненьня?

Яны адказваюць, што з I да XVIII стагоддзя іх не было таму, што хрысьціянства тых стагоддзяў перастала быць сапраўднай Хрыстовай Царквою. Але ж прыгадаем словы Хрыста: «І брамы пякельныя не адолеюць яе» (Царкву). Дык няўжо ж сапраўдная Царква магла спыніць сваё існаваньне? Згодна са словамі Хрыста — не. Такім чынам, сапраўдная Хрыстовая Царк-

ва існавала і ў I, і ў XVIII стагоддзях. А таму, што баптысты «зноў» зьявіліся толькі ў XVIII стагоддзі, яны ня могуць лічыцца сапраўднай Царквою, бо, паводле словаў Ісуса, сапраўдная Царква існуе бесьперапынна. А баптыстаў, нават паводле іхніх уласных сьцьверджаньняў, не існавала на працягу многіх стагоддзяў. Усё вышэй сказанае пра баптыстаў можна суаднесьці і да ўсіх іншых пратэстанцкіх канфесіяў.

Крытэрыяў праўдзівасьці пры выбары паміж каталіцтвам і праваслаўем ёсьць два. Па-першае, словы Хрыста: «Ты Пётр (камень), і на гэтым камені Я ствару Царкву Маю» (Мц 16, 18). Значыць, толькі тая Царква, што заснаваная і стаіць на Апостале Пятры, зьяўляецца сапраўднай. А такой Царквой у прамым сэнсе зьяўляецца толькі Каталіцкая Царква, бо яна кіруецца і ўзначальваецца пераемнікамі сьвятога Апостала Пятра — Рымскімі папамі (айцамі — у перакладзе з грэцкай), бо першым біскупам Рыму, а значыць першым папам, быў менавіта Апостал Пётр, а ўсе пазьнейшыя папы — гэта ягоныя пераемнікі. Навукоўцы ўжо даказалі, што Апостал Пётр жыў і прыняў мучаніцкую сьмерць у Рыме і ў Рыме ж знаходзіцца ягоная магіла.

Другім крытэрыем праўды пры выбары паміж праваслаўем і каталіцтвам зьяўляецца Сымбаль веры, які быў прыняты на Нікейскім і Канстанцінопальскім саборах да падзелу Царквы на Праваслаўную і Каталіцкую і які прызнаецца

да гэтай пары абедзьвюма Цэрквамі. Вось словы гэтага сымбаля, што маюць беспасярэдняе дачыненьне да пытаньня, якое нас цікавіць: «Веру ў адзіную, сьвятую, саборную (паўсюдную) і апостальскую Царкву». Слова «саборная» значыць «каталіцкая» (па-грэцку значыць сусьветная, паўсюдная Царква), інакш кажучы, Царква для ўсіх народаў, а ня толькі Царква аднаго народу, якім былі амаль усе паганскія рэлігійныя грамадзтвы.

І вось з гэтых чатырох адзнакаў сапраўднасьці Царквы, выказаных у Сымбалі веры, якія прызнаюцца і праваслаўнымі і католікамі, першай адзнакі — размова ідзе аб адзінстве — праваслаўе ня мае.

Адзінай можа быць прызнаная толькі тая супольнасьць, якая мае:

1) адну, агульную для ўсіх яе членаў мэту, на якой базуецца вучэньне гэтай супольнасьці;

2) адзінства сродкаў для дасягненьня гэтай мэты;

3) адзінае кіраўніцтва.

Калі адсутнічае хаця б адна з гэтых адзнакаў, то такая супольнасьць ня можа быць адзінай. Праваслаўная Царква ня мае адзінага кіраўніцтва. Кожны праваслаўны патрыярхат мае свайго асобнага зьверхніка — патрыярха. Патрыярхі гэтыя незалежныя адзін ад аднаго і не падпарадкоўваюцца каму-небудзь аднаму. Такіх патрыярхаў некалькі: канстанцінопальскі, александрыйскі, антыяхійскі, ерусалімскі, мас-

коўскі, грузінскі (яго называюць яшчэ «каталікос»), сербскі, румынскі і балгарскі патрыярхі.

Дык ці ж можа адзінае цела мець некалькі галоваў?

У праваслаўя няма адзінства ня толькі ў структуры, але і ў вучэньні. Так, напрыклад, паводле вучэньня Рускай Праваслаўнай Царквы, пры пераходзе з пратэстанцтва ў праваслаўе ня трэба нанова хрысьціць наверненага, а паводле вучэньня Грэцкай Царквы, прыняцьце такога хросту ёсьць неабходнай умовай.

У праваслаўі няма адзінства і ў сродках для дасягненьня мэтаў. Сацыяльная накіраванасьць дзейнасьці праваслаўных Цэркваў розная. Яны, звычайна, кіруюцца палітыкай дзяржаўнай улады дадзенай праваслаўнай краіны. Такім чынам, праваслаўе не прытрымліваецца першай з чатырох адзнакаў сапраўднай Царквы Хрыстовай, якую яна ж сама і дэкларуе на кожнай літургіі ў малітве «Веру».

Разважаючы такім чынам, я прыйшоў да высновы, што з усіх хрысьціянскіх канфесіяў сапраўднай Царквою Хрыстовай зьяўляецца Каталіцкая Царква.

Дабраўшыся да гэтае высновы, я пачаў больш падрабязна знаёміцца з навукай Каталіцкай Царквы праз размовы з адукаванымі каталікамі, сёе-тое таксама браў з атэістычнай літаратуры, якую знаходзіў у лагернай бібліятэцы.

Вынікам такога вывучэньня сталася зьяўленьне ў мяне вялікай цягі да каталіцтва. Нешта

цягнула мяне да яго. Што? У той час я ня мог дакладна зразумець гэтага. Але гэтая цяга была такой моцнай, што я ня мог ёй супраціўляцца і ўсё больш набліжаўся, атаясамліваў свае погляды з каталіцтвам.

Прыцягвала мяне ў каталіцтве веліч ягоных мэтаў, ягоны максімалізм. Тое, што каталіцтва бярэцца за вырашэньне глабальнай задачы. Яно ня толькі абяцае збаўленьне душы ў іншым сьвеце, не абмяжоўваецца вырашэньнем пытаньняў сямейнай маралі, але й бярэцца за працу па ўдасканаленьні ўсяго сьвету. Яно імкнецца аддаць Богу ўсё, яно прысутнае ва ўсіх галінах жыцьця, якія закранаюць пытаньні веры і маралі. І менавіта такі падыход адпавядае патрэбам чалавечае душы. Ці ж магчыма любіць праўду, Бога й не аддаць ёй, Яму ўсё? Гэта закон чалавечай душы — аддаваць усё таму, каго любіш. Розныя ж напрамкі пратэстантызму і праваслаўе аддавалі Богу толькі частку, а ўсё іншае аддавалі дзяржаве, а на практыцы гэта азначала, што аддавалі злу.

Хрысту ж належаць словы: «Дадзена Мне ўсялякая ўлада на небе і на зямлі» (Мц 28, 18); «Я ёсьць шлях і праўда і жыцьцё» (Ян 14, 6); «Я перамог сьвет» (Ян 16, 33). Вось чаму каталіцтва так захапіла мяне. Я любіў праўду больш за ўсё, і калі гэтай праўдай аказаўся Бог, то я хацеў аддаць Яму ўсё, а каталіцтва заяўляла аб тым самым. І нашыя погляды, значыць, мае і Каталіцкай Царквы, супадаюць. Такім

чынам, у навуцы Каталіцкай Царквы я ўбачыў вельмі блізкае сваёй душы, таму мяне і пацягнула да яе, таму я і палюбіў гэтую Царкву.

Я вывучыў на памяць некаторыя каталіцкія малітвы на лацінскай мове, бо дакладнага перакладу іх на расейскую мову ў лагеры не было. Гэта былі малітвы: *Credo* (Веру), *Pater noster* (Ойча наш), *Ave Maria* (Радуйся, Марыя), *Anima Christi* (Душа Хрыстова). І ў той самы перыяд я пасябраваў з многімі каталікамі.

Разьдзел 7

## Я станаўлюся каталікам

Я спрабаваў ужо сьвядома маліцца Богу, рупліва і ўважліва чытаў Евангельле. Але малітва мая была сухая, у ёй яшчэ не было цяпла і кантакту з Госпадам. Я не адчуваў Яго ў сваім сэрцы. Чаму? Пазьней я зразумеў, што віной гэтаму была мая грахоўнасьць, той бруд, што назьбіраўся ў маёй душы.

Як сьвятло ня можа праходзіць праз запэцканае шкло вакна, так і Божая ласка не трапляе ў душу чалавека, які не пакаяўся. Каб адчуць Бога ў малітве, мне патрэбнае было пакаяньне ў грахах за ўсё маё жыцьцё. Але мне ніхто гэтага не падказаў, і я таптаўся на месцы.

Тым часам, пры вывучэньні рэлігійных пытаньняў, я адначасова вельмі сумаваў па свабодзе. Вынесенае мне судом пакараньне здавалася бясконца доўгім, і я пачаў марыць пра ўцёкі. Усе ўцёкі з нашага лагеру былі

няўдалыя. Я цікавіўся прычынамі гэтых няўдачаў і выказваў у коле сваіх знаёмых меркаваньні, што трэба зрабіць для ўдалых уцёкаў. Але сур'ёзнага намеру ўцякаць у мяне не было. Я разумеў, што ўцячы мне было не па сілах, але ўсё ж марыў і гаварыў пра гэта. У выніку органам КГБ, праз іхніх сакрэтных супрацоўнікаў, што былі сярод маіх суразмоўцаў, сталі вядомыя мае размовы. КГБ перабольшыла значэньне маіх размоў, і мяне арыштавалі, пасадзілі ў лагерную вязьніцу і абвінавацілі ў падрыхтоўцы групавых уцёкаў, якія я нават і не зьбіраўся рыхтаваць. І вось гэтае знаходжаньне ў лагернай турме зрабілася новым моцным штуршком у маім далейшым рэлігійным разьвіцьці і росьце.

Такім чынам, мяне абвінавацілі ў падрыхтоўцы групавых уцёкаў. А гэта значыла, што сьледзтва будзе дабівацца ад мяне выдачы «аднадумцаў». І хоць ніякай падрыхтоўкі ўцёкаў не было, КГБ у тыя сталінскія часы пераканаць у гэтым было б вельмі цяжка. Я баяўся, што ня здолею праявіць на допытах дастаткова мужнасьці і, стаўшы нягоднікам, назаву невінаватых людзей.

Акрамя таго, мне не хацелася, каб мяне судзілі па гэтым фальшывым абвінавачваньні, бо за групавыя ўцёкі давалі 25 гадоў пазбаўленьня волі, а гэта значыла, што я ніколі ня выйду на волю. І вось, будучы ня ў стане ўласнымі чалавечымі сіламі змагацца з ілжывым абвінавачваньнем і сваёй слабасьцю, я зьвяр-

нуўся да Бога. Зварот гэты меў форму малітвы. Малітва гэтая займала каля гадзіны часу. Праходзіла яна вельмі інтэнсіўна. Я ўкладваўся на другі паверх нараў, заплюшчваў вочы і імкнуўся ўявіць сабе Бога, які глядзіць на мяне. Каб лепш засяродзіцца, я закрываў вочы далонямі рук. Устанавіўшы кантакт з Богам з дапамогаю свайго розуму, я маліўся, паўтараючы 10 разоў «Ойча наш», 10 разоў «Радуйся, Марыя», потым па 10 разоў выказваў свае просьбы да Бога і па 10 разоў да Багародзіцы. Заканчваў я сваю малітву трохразовым паўтарэньнем «Ойча наш» і «Радуйся, Марыя».

Калі пры малітве я губляў кантакт з Богам, то такая частка бескантактнай малітвы не залічвалася, і я, аднавіўшы разумовы кантакт з Богам, маліўся зноў. Кожнае слова малітвы я вымаўляў з поўнай засяроджанасьцю і з поўным разуменьнем. І гэтак я маліўся двойчы на дзень, раніцай і ўвечары — усяго каля двух гадзінаў. Ад напружаньня дзеля захаваньня ўвагі пры гэтых малітвах у мяне часта балела галава. Трэба сказаць, што ўвогуле маліцца было вельмі цяжка. Але дзеля пастаўленых перад сабой задачаў я пераадольваў сваёй воляю ўсе цяжкасьці. Мінула некалькі дзён у такіх малітвах. І вось, аднойчы я прысьніў сон, які паказаў мне далейшы ход сьледзтва. Мне сьнілася, што я на допыце ў кабінеце сьледчага. Ён стаіць каля стала, а я сяджу на крэсьле, каля сьцяны. Сьледчы зачытвае на мяне пака-

заньні грамадзянаў. Я ня чую ягонага голасу, але бачу выявы людзей, што давалі паказаньні адносна мяне, і, да таго ж, я пазнаю іх. Потым сьледчы падышоў да мяне, я ўстаў перад ім. Сьледчы запытаўся, ці ж сапраўды я арганізоўваў уцёкі — я адмаўляю. Тады ён б’е мяне па твары. Я маўчу. Сьледчы тры разы паўтарае сваё пытаньне, я тройчы адказваю адмоўна, ён тры разы б’е мяне па твары. Урэшце ён адыходзіць да стала, а я сядаю на стул. Тут сьледчы кажа: «Ну, пачакай, ты ў мяне загаворыш, зараз я паклічу аднаго чалавека». З гэтымі словамі ён выходзіць з кабінету, пакінуўшы дзьверы адчыненымі, каб жаўнер, што знаходзіўся ў калідоры, мог сачыць за мной. Хутка сьледчы вярнуўся з нейкім мужчынам-брунэтам, сярэдняга росту, у мундзіры цёмна-зялёнага колеру. Гэты чалавек пачаў бегаць па кабінеце і лаяцца. Потым у маім сьне ідзе нібыта перапынак, пасьля якога я сьню, што ў мяне навочная стаўка з адным маім лагерным знаёмым. І вынікі гэтай стаўкі для мяне спрыяльныя.

Я прачынаюся. Прыкладна праз гадзіну пасьля сну мяне выклікалі на допыт, і на працягу 3-х сутак з перапынкамі на гэтых допытах цудоўным чынам на 100 адсоткаў адбываецца ўсё тое, што я бачыў у сьне. Сьледчы, як і ў сьне, дапытвае мяне. Пры гэтым людзі, выявы якіх я бачыў у сьне, сапраўды аказваюцца аўтарамі паказаньняў, што былі дадзеныя супраць мяне. Сьледчы падыходзіць да мяне, тройчы задае

пытаньні — тыя ж, што і ў сьне. Атрымаўшы ад мяне адмоўныя адказы, тройчы б’е па твары ў той самай пасьлядоўнасьці, што і ў сьне. Потым ён прамаўляе словы, літаральна амаль тыя самыя, што мне прысьніліся, выходзіць, пакінуўшы дзьверы ў кабінет адчыненымі, і вяртаецца, у адрозьненьне ад сну — з трыма афіцэрамі, адзін з якіх — начальнік аддзелу КГБ у мундзіры карычневага колеру. У адрозьненьне ад сну, ён ня бегае і не крычыць на мяне, а спакойна робіць вымову мне і выпісвае ордэр на карцар, нібыта за супраціўленьне сьледзтву. Навочная стаўка, якая была потым, значыла заканчэньне маёй справы і перакваліфікацыю майго абвінавачваньня ў адпаведнасьці з маімі пажаданьнямі на іншы, больш лёгкі артыкул з меншым тэрмінам пакараньня.

Так былі выслуханыя і выкананыя мае просьбы ў малітвах. Я нікога ня выдаў, а справа мая была перакваліфікаваная на больш лёгкую. Я супакоіўся і, чакаючы суда, маліцца стаў менш. Знакам перадачы справы ў суд было тое, што падсьледнаму на подпіс давалі абвінаваўчае заключэньне. Я чакаў яго, але гэтае чаканьне зацягвалася. У мяне ўзьнікла занепакоенасьць, каб перакваліфікацыя маёй справы на больш лёгкую не была адмененая і каб не аднавілася ў выглядзе першага абвінавачваньня. Нешта падобнае ўжо здарылася з адным вязьнем. Тады я нанова аднавіў свае інтэнсіўныя малітвы да Бога з просьбай аб зацьвярджэньні перакваліфікацыі маёй справы.

 

Праз некалькі дзён мне прысьніўся сон, у якім я нібыта пытаўся ў кагосьці, ці скончылася мая справа. І вось у адказ я пачуў гучны голас, які, здавалася, ішоў з усіх бакоў: «Скончана». Я прачнуўся, і прыкладна праз гадзіну адчынілася вакенца камеры, і мне далі на азнаямленьне абвінаваўчае заключэньне. Гэта значыла, што хутка будзе суд.

І сапраўды, суд адбыўся ў хуткім часе, і я зноў вярнуўся ў лагер. Першая думка пасьля «вызваленьня» з лагернай турмы: «Калі Бог так палюбіў мяне, што адкрыў перада мною будучыню і выканаў мае просьбы, дык як жа я павінен аддзячыць Яму і палюбіць Яго?» Я задумаўся пра гэта і вырашыў, што мая падзяка Богу павінна выявіцца перадусім у перамене ўсяго майго жыцьця, у пакаяньні за грахі і ў прысьвячэньні майго далейшага жыцьця служэньню Богу. Але як гэта зрабіць? Гэта магчыма было зрабіць толькі пры ўмове выбару для сябе пэўнага веравызнаньня й далучэньня да пэўнае Царквы. Мяне прыцягвала каталіцтва. Але я ўсё ніяк не адважваўся далучыцца да яго: думаў, ну, а як памылюся? І я зноў пачаў маліцца і прасіць, каб Бог паказаў мне выбар веравызнаньня. Безумоўна, мае малітвы ўжо не былі такімі інтэнсіўнымі і нястомнымі, як у камеры лагернай турмы. І Бог мне не адказаў нічога канкрэтнага і яснага. Але ж цяга да каталіцтва заставалася, мала таго, яна ўсё больш узрастала і ўзрастала да такой ступені, што я ўжо ня мог

супрацiўляцца жаданьню стаць сынам Каталiцкай Царквы. I тады я прыняў рашэньне... Я склаў вызнаньне каталiцкай веры ў прысутнасьцi каталiцкага сьвятара, якi таксама знаходзiўся ў нашым лагеры i, такiм чынам, зьяднаўся з Каталiцкай Царквой.

Разьдзел 8

# На шляху хрысьціянскага жыцьця

Каталіцкі сьвятар у лагеры пазнаёміў мяне з методыкай маральнага ачышчэньня. Я дадаў да яе свае ўласныя прыёмы. А складалася яна з наступнага: двойчы на дзень, у сярэдзіне дня і перад тым, як ісьці спаць, я рабіў выпрабаваньне свайго сумленьня і вынікі гэтага выпрабаваньня запісваў у сьпецыяльны нататнік, які быў падзелены: па гарызанталі — назвы грахоў, а па вертыкалі — лічбы месяцу. У месцах перакрыжаваньня ліній клетачкі падзяляліся дыяганальлю напалову. У кожнай палове знакам «мінус» я адзначаў зьдзейсьнены грэх, а знакам «плюс» адсутнасьць граху. Раніцай, днём і ўвечары я маліўся, у агульнай колькасьці ад 20 да 40 хвілінаў, просячы Бога аб дараваньні мне дабрадзействаў, якія б былі супрацьлегласьцю зьдзейсьненым мною грахам ці неда-

сканаласьцям. Тры разы на дзень, у агульнай колькасьці каля 10-15 хвілінаў, я праводзіў медытацыю (духоўныя разважаньні) на тэму сваіх грахоў, імкнучыся выпрацаваць да іх як магчыма большую агіду. Адзін раз на дзень я прачытваў Ружанец з медытацыяй пра падзеі з жыцьця Хрыста і Дзевы Марыі. Акрамя таго, штодзённа я чытаў Евангельле, не рэгламентуючы гэтае чытаньне часам. І калі адчуваў патрэбу і меў адпаведны настрой, я маліўся, колькі хацеў. У выпадках зьдзяйсьненьня цяжкага граху я рабіў вельмі суровае пакаяньне. Я моцна перажываў аб сваіх грахах, як абразе Бога, што так палюбіў мяне, адкрыў мне будучыню і выканаў мае просьбы падчас майго заключэньня ў лагернай вязьніцы. Я лічыў сябе ня толькі мізэрным, але і нягоднікам, няўдзячным у адносінах да Бога. Маё пакаяньне за зьдзейсьненыя грахі даходзіла да таго, што я плакаў пры думцы, што абразіў сваімі грахамі Госпада, які так палюбіў мяне. Боль душы пры гэтым быў такі вялікі, што нават маё цела ўдзельнічала ў пакаяньні. Яно курчылася і выгіналася на нарах ад пакаяньня й жалю, якія мяне перапаўнялі.

За цяжкія грахі я караў сябе пастом — да двух сутак зусім нічога ня еў, піў толькі ваду; а часам накладваў на сябе абавязак маўчаць нават да двух тыдняў. Вядома, у дні маўчаньня я ня мог поўнасьцю адмовіцца ад словаў, бо гэта было немагчыма — я ж знаходзіўся ў лагеры сярод мноства людзей. Але мае гаворкі з іншымі

абмяжоўваліся толькі кароткімі адказамі на іх пытаньні «так» ці «не».

Маліўся я звычайна лежачы пад коўдрай (раніцай і ўвечары), бо праз вялікую мнагалюднасьць іншай магчымасьці засяродзіцца на адзіноце, акрамя як пад коўдрай, не было. Днём, калі большасьць людзей ішла на працу, я знаходзіў сабе нейкі куточак і маліўся, не падаючы, аднак, выгляду, што малюся. Кожную малітву папярэджвала душэўная падрыхтоўка. Я заплюшчваў вочы і ўяўляў сабе, што Бог глядзіць на мяне, што Ён усюды — і ў маім сэрцы таксама. Устанавіўшы такім чынам кантакт з Богам, я ўяўляў сабе веліч і дабрадзейнасьць Бога і маю ўласную мізэрнасьць у параўнаньні з Ім, маю нягоднасьць. Тым самым я абуджаў у сабе глыбокую пакору перад Госпадам, абуджаў надзею на Бога і неабмежаваны, поўны давер да Яго. І толькі калі дасягаў такога стану, я пачынаў маліцца. Падчас малітвы я зьвяртаў увагу на два асноўныя моманты: на захаваньне трывалага кантакту розуму і сэрца з Богам і на сапраўднае разуменьне словаў малітвы. Здаралася, я губляў разумовую ўвагу. Гэта бывала ад стомленасьці, усхваляванасьці, рассеянасьці. У падобных выпадках я імкнуўся захаваць падчас малітвы хоць бы толькі сардэчны кантакт з Богам. Сэрца маё нібыта прыляплялася да Бога. Нават калі мае думкі блукалі далёка ад тэмы малітвы, сэрцам я заставаўся ў кантакце з Богам.

Тут мне хочацца сказаць некалькі словаў пра неабходнасьць спалучэньня ў верніку пакорлівасьці перад Богам і надзеі, даверу да Госпада. Бязбожнікі часта гавораць, што рэлігія, калі прапаведуе пакорлівасьць, робіць тым самым чалавека слабым.

Па-першае, ня трэба разумець пакорлівасьць як рабалепства перад іншымі людзьмі. Пакорлівасьць — гэта, перад усім, рэальная і адпаведная ацэнка ўласных здольнасьцяў. Бо ў нас няма нічога, што б мы не атрымалі ад Бога. Нават наша незалежнасьць у выбары нашых дзеяньняў існуе толькі дзякуючы дадзенай нам Госпадам свабоднай волі. І калі ў параўнаньні з мільёнамі зорак касьмічнае прасторы мы самі зьяўляемся мізэрнымі пылінкамі, што можна добра адчуць пры сузіраньні бязвоблачнага начнога неба, то тым болей мы мізэрныя перад Богам, Творцам гэтага сусьвету.

Па-другое, калі адно толькі быць пакорлівым, калі толькі прыніжаць саміх сябе, свае магчымасьці, то тады чалавечая воля будзе зьвязаная і ня зможа дзейнічаць. Але рэлігія вучыць спалучаць пакорлівасьць перад Богам з надзеяй на Ягоную дапамогу, з даверам да Яго як да Найлепшага Бацькі.

Якім бы ганарлівым ні быў атэіст, якім бы ні быў самаўпэўненым, але ў глыбіні сваёй душы ён разумее, што ён усяго толькі чалавек і ягоныя магчымасьці вельмі абмежаваныя. Наадварот, чалавек, які верыць, усьведамляе,

што Бог можа ўсё, бо Ён усемагутны. Таму калі ён спадзяецца на Бога, то гэтая надзея надае яму вялікую адвагу. Але для таго, каб чалавечая душа магла цалкам, з вялікай сілаю спадзявацца на Бога, яна павінна больш не спадзявацца на сябе. Дзеля гэтага яна павінна ўсьвядоміць сваю мізэрнасьць, а гэта значыць стаць пакорлівай. Падобна на тое, як нельга цалкам напоўніць кубак віном, ня выліўшы папярэдне з яго ваду, гэтак і душа чалавечая ня можа цалкам спадзявацца на Бога, давerыцца яму да той пары, пакуль яна хоць трохі мае давер да сябе. І таму, перш, чым чалавек зьвяртаецца да Бога, ён перастае спадзявацца на свае сілы, а гэта значыць скараецца. І тады вернік атрымлівае цудоўную, надзвычайную моц, якой ня можа быць нават у найбольш самаўпэўненага (ганарлівага) атэіста. Гэтая моц адчуваецца ягонай душою як упэўненасьць у Божай дапамозе, і адвага перапаўняе яго. І гэта толькі таму, што ён спадзяецца на ўсемагутнага, справядлівага й міласэрнага Бога, а не на абмежаваныя чалавечыя сілы і здольнасьці, няхай сабе і вельмі моцнага і здольнага чалавека.

Такім чынам, не рэлігія робіць чалавека слабым, а менавіта нявер'е — атэізм; і не атэізм робіць чалавека моцным, а рэлігія.

Найбольш частай тэмай маёй медытацыі ў той час была мая ўласная пыха. Медытацыя на тэму пыхі для выпрацоўкі ў мяне пакорлівасьці была прыкладна такая: я параўноўваў веліч і дабрыню Бога са сваёй мізэрнасьцю і ня-

годнасьцю. Я імкнуўся ўсьвядоміць і глыбока адчуць, што ўсё ў сьвеце створана Богам і ўсё добрае паходзіць ад яго. Як кантраст з Ім, з Ягонымі Боскімі якасьцямі, я ўяўляў сваю мізэрнасьць і ўсю сваю нягоднасьць (прыклады яе заўсёды можна знайсьці). Далей рабіў выснову: калі такі вялікі і добры Бог прынізіў Сябе, прыняўшы чалавечую прыроду, каб выкупіць нашыя грахі і навучыць нас любові, дык як жа я, мізэрны й нягодны, асьмельваюся ўзвышаць сябе?! Ці не ўкрыжоўваю я гэтым зноў Ісуса Хрыста на крыжы?

І ад гэтага, глыбока прачуленага разважаньня пыха зьнікала з маёй душы. Сёньня я не магу дакладна сказаць, праз колькі часу ад пачатку працы над сабой я пачаў адчуваць першыя духоўныя вынікі. Больш дробныя асягненьні зьявіліся ўжо адразу. Як, напрыклад, сьлёзы каяньня, душэўная лагоднасьць і гэтак далей, але яны не адзначаліся маім розумам як нешта асаблівае і не зьдзіўлялі мяне.

Першае, што зьдзівіла мяне,— гэта зьяўленьне апалагетычных думак. Сваю рэлігійную адукацыю я спалучаў з прапаведаваньнем рэлігійных праўдаў іншым людзям. Безумоўна, я быў яшчэ малаадукаваны ў рэлігійных пытаньнях, але ж мне хацелася расказаць пра веру таму, хто яшчэ менш разьбіраўся ў рэлігіі. Гэтае маё прапаведаваньне выклікала абмен думкамі з тымі, хто ня верыў у Бога. Напачатку я выказваў рэлігійны пункт гледжаньня на прадмет нашай гаворкі па памяці, з ведаў, атрыманых

мною ад іншых. Але ў пэўны момант я адчуў, што думкі для адказу атэістам пачалі ўзьнікаць у мяне ня з памяці, а нараджаліся ад духа, нібыта ўнутры мяне нехта сядзеў і падказваў мне, што належыць адказваць. Я быў вельмі зьдзіўлены гэтым. І тлумачыў сабе гэтую сваю здольнасьць як вынік дзеяньня Сьвятога Духа.

Наступнае новае ў ва мне — гэта голас перасьцярогі, які я пачуў у сваёй душы. Аднойчы я з кімсьці гутарыў і хацеў нешта сказаць суразмоўцу, але раптам адчуў у душы нейкае пачуцьцё, якое ясна падказвала мне: «Не кажы гэтага». Але я не ўтрымаўся і сказаў. Вынік ад той нястрыманасьці быў для мяне вельмі непрыемны. У далейшым такі голас я пачаў чуць яшчэ часьцей і навучыўся падпарадкоўвацца яму. Калі я яго слухаўся, тады ўсё йшло добра. Гэты ўнутраны голас папярэджваў мяне ня толькі ў размовах, але і ў справах. Так, аднойчы я атрымаў перасьцярогу, каб ня йшоў па лагеры адной з дарог. Я паслухаўся й добра зрабіў, бо пазьбег сустрэчы з вельмі непрыемным мне чалавекам. Аднойчы я атрымаў пасылку ад родных і, ідучы з ёю ў барак, выявіў, што не хапае адной рэчы. Я вярнуўся, каб адшукаць яе. Калі наблізіўся да перакрыжаваньня дарог, я хацеў ісьці і далей проста, але раптам адчуў унутраны голас: «Ідзі направа». Я выканаў параду, збочыў управа і знайшоў згубленую рэч.

Дык што ж гэта быў за голас, чый ён быў, каму належаў? Я разважаў прыблізна такім чынам: гэты голас я не магу прымусіць ні маў-

чаць, ні гаварыць, калі мне захочацца. Такім чынам, гэты голас не залежыць ад маёй волі, не належыць мне. А гэта, у сваю чаргу, азначае, што ён пасылаецца мне па чыёйсьці волі і належыць камусьці іншаму. Гэты ўнутраны голас дае мне разумныя парады, значыць, той, хто ім валодае, мае свой уласны розум. Тады я прыпомніў словы Ісуса Хрыста, прыведзеныя евангелістам Янам: «Дух дыхае, дзе хоча, і голас ягоны чуеш, а ня ведаеш, адкуль прыходзіць і куды сыходзіць» (Ян 3, 8).

Нешта падобнае было і са мной. Голас гэты — дух, які невядома як і адкуль прыходзіў і сыходзіў.

Гэтае перажываньне даказала мне на справе, што вакол нас існуе сьвет духаў. Пазьней сьвятары — каталіцкі і праваслаўны — вытлумачылі мне, што гэты ўнутраны голас зьяўляецца голасам Анёла-ахоўніка, якога мае кожны чалавек. Атэісты-бязбожнікі будуць пярэчыць, што гэты голас — звычайная інтуіцыя. Але яны ня маюць рацыі, бо інтуіцыя залежыць ад жыцьцёвага вопыту, чым багацейшы вопыт, тым багацейшая інтуіцыя. Але голас, пра які я кажу, чуюць і дзеці, і дарослыя, мужчыны і жанчыны, гэта значыць, што людзі з розным жыцьцёвым вопытам але, напэўна, дзеці (як людзі з найменшым жыцьцёвым вопытам) бываюць да яго больш чуйныя. Вось жа інтуіцыяй гэты ўнутраны голас назваць нельга.

З часам малітва мая да Бога рабілася ўсё больш дасканалай. Напачатку я маліўся розу-

мам, сэрцам жа знаходзіўся ў кантакце з Богам, ня больш. Але аднойчы ў час малітвы я адчуў цеплыню ў вобласьці сэрца. Пачуцьцё гэтае было новае і вельмі прыемнае! І я пастараўся захаваць гэтую пяшчотную цеплыню як мага даўжэй. Я заўважыў, што гэтае пачуцьцё пяшчотнае цеплыні залежыць ад ступені маёй маральнай чысьціні, пакоры і ўдзячнасьці Богу, а таксама ад волі Божай. Чым больш я быў чысты ў маральным сэнсе, чым больш я быў пакорлівы і ўдзячны Богу, тым мацнейшым было гэтае дзіўнае пачуцьцё. Аднак, трэба зазначыць, калі-нікалі гэтая пяшчотная цеплыня прыходзіла і без маіх заслугаў. Як толькі ўзьнікала падчас малітвы гэтае пачуцьцё, далейшая малітва была для мяне сапраўднай асалодай.

У пэўны момант я заўважыў, што хоць і люблю Бога, але любові да людзей, да блізкіх у мяне няма, а калі і ёсьць, дык вельмі мала. Я стаў маліцца, каб Бог дапамог мне палюбіць людзей. Я імкнуўся быць добразычлівым да тых, што былі вакол мяне, і нават пранікся вельмі цёплымі пачуцьцямі да аднаго маладога ўкраінца.

Аднойчы ўвечары, перад сном, калі ляжаў у ложку, я пачаў настройвацца на малітву. Я ўявіў сабе вобраз чалавека, якога да той пары ня вельмі любіў, і пастараўся палюбіць яго. І так здарылася, што маё сэрца амаль адразу напоўнілася пяшчотнай цеплынёй. Затым я ўявіў сабе вобраз Божай Маці на карціне Рафаэля

«Сікстынская Мадона» — і прыліў пяшчотнай цеплыні ў маім сэрцы яшчэ больш павялічыўся. Далей я ўявіў сабе вобраз Хрыста — і хваля любові літаральна заліла маё сэрца. На душы ў мяне было так цёпла й радасна, што проста ня мог спыніць малітву. Спачатку гэтае пачуцьцё цеплілася ў маіх грудзях і нагадвала мне гарачыя вуглі, што пакрытыя попелам, але раптам любоў распалілася магутным полымем, як вуглі, на якія лінулі бензіну. Усяго мяне ахапіла невымоўнае пачуцьцё шчасьця, якое ніякімі словамі не выкажаш. Калі б нехта спытаўся ў мяне, што такое «шчасьце», дык я б адказаў, што менавіта тое маё пачуцьцё, той мой стан — гэта і ёсьць шчасьце. Некаторыя мае знаёмыя акрэсьліваюць падобныя моманты перажываньняў як «нябесную радасьць». У такія хвіліны душа нібыта прытуляецца да Бога, зьліваецца з Ім і як бы губляецца ў Ягонай бяздоннай сутнасьці.

Першы раз такі стан трываў у мяне нядоўга. Пры далейшых малітвах я стараўся нанова ўвайсьці ў такі ж стан. І на працягу некалькіх месяцаў гэта мне ўдавалася. Максімальная працягласьць гэтага стану была недзе каля 25 хвілінаў, падчас якіх я знаходзіўся ў поўным забыцьці, з асалодай адчуваючы Бога. У такія моманты даволі часта з маіх вачэй цяклі сьлёзы, я хацеў маліцца, дзякаваць і бясконца праслаўляць Госпада. Я знаходзіўся ў поўнай фізічнай нерухомасьці і нічога не адчуваў вакол сябе. Праўда, калі б я захацеў, то, знаходзя-

 

чыся ў такім стане, мог бы чуць прысутнасьць людзей, што былі ў бараку, як нешта далёкае. Душа мая была ўзьнесена да Бога, яна нібыта зьлівалася з Ім у цесным кантакце, у невымоўным шчасьці й радасьці.

Я запытаўся ў сьвятароў, якія былі ў нашым лагеры, што гэта за стан. І яны (каталіцкі і праваслаўны сьвятары) адказалі мне, што мае пачуцьці, мой стан падчас малітваў ёсьць Дарам Божым, а называецца ён харызматычнай Божай ласкай.

Мінула некалькі месяцаў ад таго моманту, як я ўпершыню адчуў нейкую надзвычайную цеплыню, што ахапляла маё сэрца падчас малітваў, і я заўважыў, што гэты мой стан, які знаёмыя сьвятары акрэсьлілі як харызматычную Божую ласку, стаў рабіцца ўсё карацейшым і ўжо ня быў такім інтэнсіўным. І ўрэшце ён зьнік зусім. Але яшчэ доўга захоўвалася адчуваньне, што яно недзе блізка, нібыта стаіць за дзьвярыма, і вось адчыняцца дзьверы — і яно зноў прыйдзе да мяне.

Замест гэтага стану ў маім сэрцы засталося трывалае пачуцьцё цеплыні, накшталт тлеючых пад полымем вуглёў.

Я з усіх сілаў спрабаваў перашкодзіць адыходу харызматычнай ласкі Божай, спрабаваў вярнуць яе, але ня здолеў. Яна адыйшла назаўсёды. І потым, у будучыні, яна ніколі да мяне не вярталася.

Маё духоўнае жыцьцё з адыходам харызматычнай ласкі Божай стала больш цьмянае. Знаёмыя сьвятары мне вытлумачылі, што ня трэба засмучацца, бо харызматычная ласка Божая была дадзеная мне дзеля ўмацаваньня і што для хрысьціяніна яе прысутнасьць ня ёсьць абавязковаю.

Прайшло некалькі месяцаў. Я вёў ужо звыклы для мяне рэлігійны вобраз жыцьця. Аднойчы я сядзеў днём на верхніх нарах. Людзей у бараку амаль не было, і я чытаў Евангельле ад Лукаша, восьмы разьдзел пра жанчыну, якая пакутавала ад крывацечы (Лк 8, 43-48). Калі я прачытаў словы Хрыста: «вера твая ўратавала цябе», дык раптам адчуў, як нейкая вялікая сіла ўвайшла ў мяне. Я адчуў нешта падобнае на праходжаньне праз маё цела току высокага напружаньня. Розьніца была толькі ў тым, што пачуцьцё гэтае было духоўнае, а не фізічнае, як у выпадку з электрычным токам. Гэтае пачуцьцё вялікай духоўнай сілы суправаджалася жаданьнем прапаведаваць Боскія Праўды. Здавалася, што калі я пачну гаварыць, голас мой будзе гучаць як гром, што вочы мае будуць выпраменьваць агонь, і што калі б я каго-небудзь штурхнуў, такі чалавек адляцеў і праламаў бы сьцяну барака.

Гэты мой стан меў тры этапы. Першы этап адрозьніваўся адчуваньнем аграмаднае сілы і цягнуўся каля 10-12 секундаў, і паступова, нібыта хваляю, зыйшоў. Другі этап цягнуўся се-

кундаў 8, суправаджаўся ён меншым пачуцьцём сілы і таксама павольна зьнік. Апошні этап цягнуўся 4-5 секундаў, быў яшчэ меншай сілы і таксама павольна зьнік. Я сядзеў ашаломлены. Сьвятары мне патлумачылі, што тое, што я перажыў, называецца надзвычайным дарам Сьвятога Духа. Падобны стан быў у Урса, героя рамана «Quo Vadis» славутага польскага пісьменьніка Генрыка Сянкевіча. Ён апісаў, што Урус пры дапамозе падобнай сілы, якая нечакана зыйшла на яго з вышыняў, скруціў шыю быку на арэне рымскага цырку. Пазьней сьвятары мне казалі, што падобны стан бывае ў місіянераў, калі яны масамі навяртаюць людзей да пакаяньня.

На гэтым скончыліся мае асаблівыя рэлігійныя перажываньні. І маё далейшае рэлігійнае жыцьцё праходзіла так, як і ў большасьці хрысьціянаў.

Але перажыты мною стан застаўся ў маім сэрцы на ўсё жыцьцё і канчаткова ўмацаваў мяне ў хрысьціянстве. Калі да тых асаблівых перажываньняў у мяне і былі нейкія сумнівы адносна цудаў Хрыстовых, пра якія гаворыцца ў Евангельлі, дык цяпер гэтыя сумнівы зьніклі. Бо, калі Бог мог зьдзейсьніць са мною такія надзвычайныя дзеяньні, чаму ж тады Ён ня мог зрабіць нешта падобнае праз свайго Адзінароднага Сына Ісуса Хрыста?

Разьдзел 9

# Адрозьненьне каталіцтва ад іншых хрысьціянскіх веравызнаньняў

Мінула шмат гадоў. Мяне вызвалілі з савецкага лагеру, і я атрымаў магчымасьць знайсьці дастаткова часу на тэарэтычнае абгрунтаваньне ўласных рэлігійных перакананьняў. Я пазнаёміўся з дзясяткам доказаў існаваньня Бога, з доказамі існаваньня бесьсьмяротнасьці душы, з гістарычнымі доказамі існаваньня Ісуса Хрыста, з вытлумачэньнем сэнсу зла і пакутаў у сьвеце ды з абгрунтаваньнем праўдзівасьці навукі Каталіцкай Царквы.

Сёньня, ужо з улікам пражытых гадоў і атрыманых ведаў, я мяркую, што зварот да Бога ня ёсьць вельмі складанай справай, таксама, як і прыняцьце хрысьціянства. Большасьць людзей, якія прыйшлі да Бога, зьвяртаюцца да

рэлігіі сваіх продкаў. Прадстаўнікі хрысьціянскіх народаў звычайна вызнаюць хрысьціянства. Больш цяжкай зьяўляецца справа з выбарам прыналежнасьці да канкрэтнай канфесіі. Перад чалавекам можа паўстаць (і паўстае даволі часта!) пытаньне: хто ж мае рацыю — католікі, праваслаўныя ці пратэстанты (сярод якіх ёсьць таксама дзясяткі і нават сотні разнастайных сектаў). Пра монафізітаў, нестарыянаў ды іншыя ўсходнія адломы першых стагоддзяў хрысьціянства я нават і не вяду размовы, бо яны вельмі малыя колькасна. Тут няма магчымасьці падрабязна затрымлівацца на другарадных адрозьненьнях паміж каталіцтвам, праваслаўем і рознымі галінамі пратэстанцтва. Я хачу засяродзіць увагу толькі на самым істотным, на мой погляд, моманце, які адрозьнівае Каталіцкую Царкву з аднаго боку ды праваслаўе і пратэстантызм — з другога.

Розьніца гэтая галоўным чынам у поўні каталіцкай формы хрысьціянства, ва ўсеабдымнасьці каталіцтвам усіх бакоў жыцьця хрысьціянскага насельніцтва, яно ахоплівае і ўключае ў сябе ўсё тое, дзе ёсьць элементы веры і маралі. І менавіта гэтая поўня, усеабдымнасьць надае каталіцкаму вучэньню веліч ягоных мэтаў.

Але ў чым жа перавага такой асаблівасьці каталіцтва перад іншымі веравызнаньнямі? Перавага гэтая палягае ў тым, што каталіцтва ахоплівае ўсе бакі жыцьця, у сферы якіх вызначаецца для душы вечнае збаўленьне ці вечная

пагібель, тым самым, натуральна, каталіцтва забясьпечвае людзям большую бясьпеку і абарону ад граху і памылак.

Жыцьцё дзіцяці, за якім уважліва сочыць добры выхавацель, знаходзіцца ў большай бясьпецы, чым жыцьцё дзіцяці, якое знаходзіцца толькі пад частковым, павярхоўным наглядам. Гэтак і маральнае жыцьцё людзей: калі яно ахопліваецца хрысьціянскім вучэньнем паўсюдна, тады мае менш магчымасьцяў адхіліцца ў бок грахоўнасьці, чым у тым выпадку, калі духоўнае жыцьцё знаходзіцца толькі пад частковым уплывам хрысьціянскага вучэньня.

Каталіцтва прэтэндуе на ахоп хрысьціянскім духам усіх бакоў жыцьця вернікаў. Яно імкнецца напоўніць хрысьціянскім духам маральнае, асабістае, грамадзкае, культурнае жыцьцё чалавека, навуку, мастацтва, эканоміку, філасофію, медыцыну — карацей кажучы, усё.

Праваслаўе ж і пратэстантызм абмяжоўваюць сферу сваёй дзейнасьці, свайго ўплыву, галоўным чынам на асабістым жыцьці чалавека.

У Евангельлі ж ад сьвятога апостала Мацьвея мы знаходзім наступныя словы Хрыста: «Дадзена Мне ўсялякая ўлада на небе і на зямлі» (Мц 28, 18); а ў Евангельлі ад сьвятога апостала Яна мы знаходзім такія словы Збавіцеля: «Я ёсьць і шлях і праўда і жыцьцё» (Ян 14, 6). З гэтага з відавочнасьцю вынікае, што ўсе дачасныя справы і інтарэсы гэтага сьвету (як больш нізкія паводле сваёй сутнасьці) павінны пад-

парадкоўвацца інтарэсам і справам духоўным, як вышэйшым паводле сваёй сутнасьці. Гэтую думку прыводзіць выдатны расейскі філосаф Уладзімір Салаўёў у сваёй працы «Вялікая спрэчка і хрысьціянская палітыка», напісанай ім у 1883-87 гадах. Але ж менавіта гэта і зьдзяйсьняе каталіцтва праз свой прынцып паўсюднасьці, усеабдымнасьці й поўні.

Здаецца, што зусім відавочная перавага гэтага прынцыпу ўсеабдымнасьці над прынцыпам частковага, фрагментарнага ахопу жыцьця хрысьціянствам.

Але чаму ж тады праваслаўе і пратэстантызм ня могуць ці не жадаюць мець такой поўні?

Прычына гэтага ў наступным. Каб Царква магла прэтэндаваць на агульны, поўны ахоп хрысьціянскім вучэньнем усіх бакоў жыцьця, яна павінна мець на гэта дадзеныя звыш надзвычайныя паўнамоцтвы і абяцаньне надзвычайнай дапамогі ў справе кіраваньня хрысьціянскім чалавецтвам.

Але такія паўнамоцтвы і абяцаньні маюцца толькі ў Каталіцкай Царквы, бо толькі гэтая Царква валодае беспамылковасьцю свайго кіраўніцтва ў пытаньнях веры і маралі пры ўжываньні хрысьціянскага вучэньня ў штодзённым жыцьці. Гэта яскрава выяўляецца ў дагматах пра старшынства і беспамылковасьць Рымскіх папаў.

Ніводная іншая Царква ня мае вучэньня аб беспамылковасьці свайго кіраўніцтва, а таму і

ня можа прэтэндаваць на ўсебаковае кіраваньне хрысьціянскім народам.

Такім чынам, галоўнай дагматычнай адрознасьцю паміж каталіцтвам і праваслаўем, а таксама і пратэстантызмам, зьяўляецца дагмат пра беспамылковасьць Папы, як бачнага, зямнога зьверхніка Царквы.

Значыць, галоўнае тут не абраднасьць, не дагматы пра чысьцец, беззаганае зачацьце Дзевы Марыі і г. д, а дагматычнае вучэньне пра старшынства Апостала Пятра і ягоных наступнікаў — біскупаў Рыму — ды іхняя беспамылковасьць у справах збаўленьня грэшных чалавечых душаў.

 

Разьдзел 10

# Мая місіянерская дзейнасьць на волі

Пазнаёміўшыся з тым, што тут напісана, вы даведаліся пра мой шлях ад атэізму да Бога і да Каталіцкай Царквы. У далейшым, пасьля сямі з паловай гадоў заключэньня ў лагеры і выхаду на волю, дзякуючы амністыі і пазьнейшай рэабілітацыі, я вярнуўся ў Яраслаўль і здолеў аднавіцца па месцы сваёй ранейшай вучобы — на гістарычным факультэце Яраслаўскага педагагічнага інстытуту. Я здаў некалькі прадметаў экстэрнам і аднавіў вучобу з другога семестру, тым самым сваё навучаньне ў інстытуце я скараціў да трох з паловай гадоў. У 1959 годзе я скончыў гістарычны факультэт педагагічнага інстытуту.

Вядома, пасьля ўсіх тых рэлігійных перажываньняў, якія мелі месца ў маім жыцьці, я лічыў сваім пакліканьнем сьведчыць людзям пра існаваньне Бога. Але ж я быў студэнтам педагагічнага інстытуту, а школа ў СССР была

адасоблена ад Царквы, таму мая вучоба ў гэтай вышэйшай навучальнай установе была несумяшчальная з адкрытым прапаведаваньнем рэлігіі людзям. Калі б адміністрацыя інстытуту даведалася пра маю рэлігійную дзейнасьць, мяне б выключылі з інстытуту. І таму мне даводзілася рабіць гэта патаемна.

Я вырашыў распачаць прапаведаваньне каталіцтва сярод абрусельх палякаў, якія жылі ў маім горадзе. Некалі, у часы царскай Расеі, Яраслаўль быў месцам ссылкі палякаў і беларусаў з заходніх губерняў. Тут была каталіцкая царква, а значыць, была й каталіцкая грамада. Я лічыў, што ў гэтых, хоць і абрусельх ужо палякаў, павінна была яшчэ захавацца памяць пра веру іхніх продкаў і ня можа быць адмоўнага стаўленьня да Каталіцкай Царквы, якое было сярод насельніцтва праваслаўнай традыцыі. Некалькі абрусельх палякаў вучыліся ў нашым інстытуце. Акрамя індывідуальнай працы з такімі палякамі, я спрабаваў стварыць пры інстытуце таварыства савецка-польскай дружбы, каб праз разьвіцьцё кантактаў савецкіх студэнтаў з Польшчай пазнаёміць іх з каталіцкай культурай гэтай краіны і паступова зацікавіць іх каталіцтвам. Але кіраўнік нашага інстытуту адкінуў ідэю стварэньня таварыства савецка-польскай дружбы. Тады я паспрабаваў наладзіць асабістыя кантакты некаторых зацікаўленых студэнтаў з маімі знаёмымі ў Польшчы, каб праз гэтыя стасункі і дасылку поштай на адрас гэтых студэнтаў каталіцкай літаратуры з Польшчы заці-

 

кавіць іх рэлігіяй. Але і з гэтай спробы нічога ня выйшла. Бацькі адной са студэнтак — абрусельныя палякі — пасьля атрыманьня ліста з Польшчы данесьлі пра яго ў КГБ. З-за гэтага іхняя дачка вымушана была прайсьці праз допыты ў КГБ. Пасьля такога здарэньня мне заставалася адно праводзіць індывідуальную працу з людзьмі. Урэшце, адну студэнтку я нават здолеў падрыхтаваць да хросту ў касьцёле сьв. Людовіка ў Маскве і яшчэ некалькі чалавек пазнаёміў з каталіцтвам. На маё зьдзіўленьне, пра хрост студэнткі стала вядома кіраўніцтву педінстытуту пасьля прагляду супрацоўнікамі КГБ кнігі хростаў людзей у маскоўскім касьцёле.

У хуткім часе я адчуў, што за мною сочыць КГБ. Некалькі студэнтаў, выкліканых у КГБ, былі дапытаныя пра мяне, і менавіта яны мяне папярэдзілі. Да таго ж, другая жонка майго бацькі даведалася ад яго пра мае каталіцкія перакананьні і пасьля таго, як пасварылася й разьвялася з бацькам, напісала на мяне данос у інстытут пра мае каталіцкія погляды. У выніку, калі я пасьля здачы дзяржаўных іспытаў на наступны дзень прыйшоў, каб атрымаць дыплом пра заканчэньне інстытуту, мне адмовілі ў выдачы дыплому. Абгрунтавалі гэта тым, што я зьяўляюся актыўным католікам, а педагагічная праца несумяшчальна з рэлігійнымі перакананьнямі.

Адмова ў атрыманьні дыплому прывяла мяне ў адчай. Але неспадзявана ў душы я адчуў голас Божы: «Атрымаеш». Я зразумеў, што

маецца на ўвазе менавіта атрыманьне дыплому. І ў далейшым, калі на мяне находзіў смутак з нагоды адмовы выдаць дыплом, я заўсёды чуў у душы гэтае выразнае: «Атрымаеш». Бог не пакідаў мяне ў бядзе. Згодна словаў апостала Паўла: «Вера ёсьць зьдзяйсьненьне чаканага і ўпэўненасьць у нябачным» (Габ 11, 1), я, маючы веру да словаў Госпада пра атрыманьне мной дыплому, стаў ажыцьцяўляць тое, што чакаў (значыць, атрыманьне гэтага дыплому). На адмову адміністрацыі інстытуту выдаць мне дыплом на падставе маіх рэлігійных перакананьняў я напісаў скаргу ў кіраўнічыя дзяржаўныя і прафсаюзныя органы. І праз паўгады мая справа была вырашана! Атрыманьне дыплому было для мяне яшчэ адным пацьвярджэньнем вернасьці Бога сваім абяцаньням. Бо Госпад сьвяты і падманваць ня можа.

Пасьля атрыманьня дыплому я пераехаў жыць у Літву, дзе перасьлед за рэлігію быў меншы, чым у РСФСР. Там я ўладкаваўся на працу загадчыка сельскай бібліятэкі. На Віленшчыне, у мясцовасьці, дзе я працаваў, насельніцтва вызнавала сябе палякамі. Там я займаўся распаўсюджваньнем каталіцкай літаратуры на польскай мове сярод вясковага насельніцтва. Пра гэта стала вядома майму кіраўніцтву, і з гэтай прычыны мне адмовілі ў прапанаванай раней працы настаўніка нямецкай мовы ў школе.

У Літве я ажаніўся, у мяне нарадзілася дачка, і па сямейных прычынах я вымушаны быў вярнуцца ў свой родны Яраслаўль. У гэты перыяд

я завочна вучыўся, атрымаў эканамічную адукацыю. Працаваць давялося старшым інжынерам-эканамістам у навукова-дасьледчым інстытуце.

Памяць пра шматлікія ласкі Божыя, пра якія я пісаў у гэтай кнізе, не давала мне спакою. І я, ва ўмовах заканадаўчых абмежаваньняў на рэлігійную дзейнасьць, што існавалі ў той час у Савецкім Саюзе, працягваў займацца хрысьціянскай асьветай людзей. За гэта мяне шмат разоў выклікалі ў органы дзяржбясьпекі, дзе папярэджвалі пра недазволенасьць займацца падобнай дзейнасьцю; двойчы ў маёй хаце рабіліператрус з мэтай забраць рэлігійную літаратуру; шмат разоў мяне пазбаўлялі прэміяў і ўзнагародаў за добрую працу. Таксама мне адмовіліся даць характарыстыку, якая была неабходная для здачы іспытаў на кандыдацкі мінімум. Акрамя таго, мне рабілі ўсялякія перашкоды ў руху па службовай лесьвіцы.

У Яраслаўлі я стварыў гурток з 7 чалавек па вывучэньні рэлігіі. Мы сябравалі, даставалі рэлігійную літаратуру, чыталі і абмяркоўвалі яе. У працэсе такіх стасункаў я імкнуўся абудзіць у людзей цікавасьць да каталіцтва. Аднак у гурток трапіў сакрэтны супрацоўнік КГБ, студэнт медыцынскага інстытуту. Над намі пачалася аператыўная работа КГБ. Частка людзей, ня маючы досьведу ў стасунках з КГБ, як кажуць, «раскалолася» і дала на мяне паказаньні як на арганізатара. Сакрэтны супрацоўнік КГБ раскаяўся і папярэдзіў мяне пра сваю здраду. Мяне

выклікалі на допыты ў КГБ. Цягнуліся яны па некалькі гадзінаў. Калі я адмовіўся раскаяцца і даць патрэбныя паказаньні, органы КГБ арганізавалі цкаваньне мяне. Спачатку — правядзеньнем лекцыяў пра маю «дзейнасьць» па месцы працы, а затым і ў іншых буйных вытворчых калектывах Яраслаўля. У выніку я быў пазбаўлены характарыстыкі для працы над абаронай кандыдацкай дысертацыі, падвышэньня заробку і друкаваньня маёй навуковай працы ў часопісе міністэрства. Матывацыя была ў тым, што нельга падвышаць мой навуковы аўтарытэт і што званьне савецкага вучонага не сумяшчальнае з рэлігійнымі пераканаьнямі.

А ў мяне ж была ўжо сям'я, і мне трэба было яе матэрыяльна забясьпечваць. Аднак цяпер у сваім родным горадзе я быў «белай варонай». У выніку цкаваньня з боку КГБ я ня меў нармальнай магчымасьці працаваць па сваёй сьпецыяльнасьці ды матэрыяльна забясьпечваць сям'ю. І тады я наважыўся пераехаць жыць у каталіцкі раён СССР — у Заходнюю Беларусь, у Горадню. Я меў надзею, што там на мяне КГБ будзе менш зьвяртаць увагі. Скарыстаўшы рэкамендацыю ксяндза Станіслава Лазара — берасьцейскага сьвятара, з якім я разам адбываў заключэньне, я пазнаёміўся з гарадзенскім каталіцкім духавенствам і пераехаў у 1967 годзе ў Горадню. Там я ўладкаваўся інжынерам-эканамістам і пачаў паціху прапаведаваць каталіцтва.

Прыкладна ў той самы час я наладзіў кантакты са студэнтам праваслаўнай духоўнай

Акадэміі — Дзьмітрыем Дудко, які жыў у Маскве. З ім мы некалі разам сядзелі ў адным камуністычным канцлагеры. Ён быў чалавек глыбока рэлігійны, а да таго ж яшчэ і паэт; таксама, як і я, ён меў дзьве палітычныя судзімасьці. Пазьней ён стаў праваслаўным сьвятаром і працаваў спачатку ў Маскве, а затым у Падмаскоўі. Мы часта гутарылі з ім на рэлігійныя тэмы, і аднойчы ён мяне пазнаёміў з праваслаўным сьвятаром Глебам Якуніным, які быў пазбаўлены права служыць у царкве за ягоны пратэст супраць антыхрысьціянскіх паводзінаў Маскоўскай патрыярхіі. Айцец Г.Якунін у той час быў беспрацоўны і жыў на ахвяраваньні вернікаў. Ён падараваў мне кнігу расейскага філосафа грэка-каталіка Ўладзіміра Салаўёва «Расея і Ўсяленская Царква».

Айцец Дзьмітры Дудко быў вельмі актыўны праваслаўны сьвятар, гуртаваў вакол сябе расейскую рэлігійную моладзь славянафільскіх поглядаў. Ён быў занадта адкрыты для замежных карэспандэнтаў і дысідэнтаў (быў знаёмы з Салжаніцыным ды іншымі) і за гэта паплаціўся кароткачасовым арыштам. Спадзеючыся перайграць КГБ, для таго, каб пазьбегнуць турэмнага тэрміну, ён публічна па тэлевізіі і ў газеце «Известия» выракся сваёй антыпатрыяршай пазіцыі і сімпатыяў да дысідэнтаў, за што быў вызвалены з-пад арышту і адноўлены на сьвятарскай працы. Але праз публічнае адрачэньне ў сродках масавай інфармацыі ад сваіх ранейшых палітычных і царкоўных поглядаў,

ён згубіў аўтарытэт у сваіх вернікаў. Пасьля гэтага здарэньня я сустрэўся з ім, і ён мне асабіста выказаў шчырае шкадаваньне з прычыны ўласнай маладушнасьці, з-за якой упаў яго аўтарытэт як духоўнага пастыра.

Часта мы гаварылі з а. Дзьмітрыем Дудко пра каталіцтва, і аднойчы ён мне сказаў, што я яму надакучыў з гэтай тэмай, і параіў мне пазнаёміцца з праваслаўным сьвятаром Аляксандрам Менем, які, паводле словаў Дзьмітрыя Дудко, у душы — каталік. Ён даў мне пісьмовую рэкамендацыю да а. Аляксандра Меня. І я паехаў да яго дадому — у Падмаскоўе. Жыў ён каля станцыі маскоўскай электрычкі «Семхоз». Патрапіўшы ў вагон электрычкі, я заўважыў чалавека, падобнага, паводле апісаньня Дз.Дудко, на А.Меня. Я падыйшоў да яго і пазнаёміўся — выявілася, гэта сапраўды быў а. Аляксандр Мень.

З тых часоў мы разоў пяць сустракаліся з ім. Двойчы я быў у яго дома ў гасьцях, назіраў за ягонай методыкай працы над кнігамі, якія ён рыхтаваў да друку. У яго было вельмі шмат сістэматызаваных па тэмах выпісак з кніг, чым і тлумачыцца багатая бібліяграфія ў ягоных працах. У працы над кнігамі а. Аляксандру Меню дапамагалі таксама перакладчыкі з замежных моваў. У адзін са сваіх прыездаў да А.Меня я застаў яго за такой працай з адной перакладчыцай.

Ён пазнаёміў мяне са сваімі галоўнымі супрацоўнікамі па рэлігійнай працы і сам-насам

 

прызнаўся, што ён тайны католік і мае ліст ад кіраўніцтва Каталіцкай Царквы на працяг працы праваслаўным сьвятаром. Аляксандр Мень быў, мабыць, самы актыўны і прадуктыўны праваслаўны сьвятар. Вядомы ён ня толькі сваімі папулярнымі кнігамі па хрысьціянстве. Ён і ягоныя людзі былі першымі арганізатарамі ў Маскве рэлігійнага самвыдату на друкарскіх машынках. Ягоныя людзі ўступалі ў кантакты з каталіцкімі манахамі-навукоўцамі, якія прыязджалі ў Маскву на навуковыя канферэнцыі і прывозілі з-за мяжы рэлігійную літаратуру для людзей з кола А.Меня. Менавіта а. Аляксандр Мень разам са сваімі вернікамі першы стварыў у Маскве моладзевыя гурткі для рэлігійнай асьветы. На іх айцец А.Мень прадстаўляў мяне моладзі як расейскага католіка, што ў той час было як нейкае дзіва. Я быў сьведкам таго, як ён неаднойчы раіў сваім духоўным дзецям прымаць прычасьце ў каталіцкіх храмах, маліцца там. З гэтага вынікае, што ён прапаведаваў актыўныя экуменічныя стасункі праваслаўных з католікамі. Часам мне даводзілася весьці рэлігійныя прасьветніцкія гутаркі з «менеўцамі». На маё пытаньне, колькі ён навярнуў у праваслаўе людзей, а. Аляксандр Мень мне адказаў, што з 1960 году па 1980 год асабіста ён хрысьціў каля 8 тысячаў чалавек, а потым перастаў весьці ўлік. Паводле словаў саміх менеўцаў, сярод тых, каго навярнуў у праваслаўе а. Аляксандр Мень, значную колькасьць складалі людзі з габрэйскімі каранямі.

Які быў воблік а. Аляксандра Меня? Гэта вельмі складаны вобраз. Сам А.Мень — ахрышчаны габрэй. Ён быў з барадой, а часам і без яе. Калі ён быў без барады, ягоны габрэйскі выгляд быў зусім відавочны. Вочы Аляксандра Меня былі вельмі выразныя: у іх адчувалася глыбока пеpажытыя і схаваныя пакуты. Здавалася, у ягоных вачах адлюстравана ўся глыбокая трагедыя габрэйскага народу. Але гэты трагізм спалучаўся з вялікай добразычлівасьцю да людзей.

Мае сяброўскія стасункі з А.Менем працягваліся колькі гадоў, але былі азмрочаныя двума непрыемнымі выпадкамі. На жаль, двойчы ягоныя паплечнікі выдалі мяне ў маёй рэлігійнай дзейнасьці. Наступствам гэтага былі перагрусы ў мяне.

Першы ператрус быў у 1970 годзе: шукалі ў мяне нелегальны часопіс «Хроника текущих событий». У гэтым часопісе друкаваліся выпадкі парушэньня правоў чалавека ў СССР, у тым ліку і за рэлігійныя перакананьні. Пры вобыску ў мяне было канфіскавана шмат рэлігійнай літаратуры, пераважна брусельскага выдавецтва «Жизнь с Богом» і антымарксісцкая літаратура дарэвалюцыйнага выданьня (Бярдзяеў, Булгакаў і інш.). На працягу цэлага году мяне выклікалі на допыты ў КГБ, абвінавачвалі ў захоўваньні часопісу «Хроника текущих событий» і перадачы ў яго інфармацыі пра парушэньні правоў вернікаў. Але я пасьпяхова здолеў адхіліць гэтыя абвінавачваньні. Тады КГБ па-

 

спрабавала надаць маёй асьветніцкай дзейнасьці па распаўсюджваньні каталіцтва ў Горадні крымінальны характар. Некаторыя з маіх вучняў пад націскам КГБ выдалі мяне, але затое ў далейшым пачуцьцё віны паскорыла іхняе навяртаньне ў каталіцтва, і яны сталі перакананымі католікамі. КГБ у прысутнасьці пракурора і прадстаўніка Гарадзенскага абкаму КПСС запатрабавала ад мяне падпіскі з абяцаньнем не займацца рэлігійнай асьветай людзей. Я адмовіўся даць такое абяцаньне, матывуючы сваю адмову адсутнасьцю забароны на гэта ў Канстытуцыі.

Другі раз мяне выдалі ў 1984 годзе. На гэты разператрус і сьледзтва па справе вялося пракуратурай. Чалавек з прыхаджанаў айца А.Меня, якога арыштавалі ў Маскве, даў паказаньні, што ён мне прадаў кнігі рэлігійнага самвыдату. Падчас ператрусу ў мяне знайшлі некаторыя з названых ім кніг, але я патлумачыў, што кнігі мною атрыманы ад іншага чалавека, імя якога я ня памятаю. Пасьля двух выпадкаў здрадніцтва з боку людзей а. Аляксандра Меня я спыніў кантакты з ягонымі людзьмі і з ім.

Падчас ператрусаў КГБ асабліва імкнулася знайсьці адрасы людзей, з якімі я кантактаваў, аднак я, ведаючы гэты іхні інтарэс, заўсёды трымаў адрасы знаёмых у недасягальным для КГБ месцы і ніколі не запамінаў прозьвішчаў сваіх знаёмых. А супрацоўнікам КГБ я гаварыў, што сьпецыяльна не цікавіўся імёнамі і про-

зьвішчамі тых, з кім сустракаўся, бо ведаў, што пра гэта яны запытаюць. З гэтае прычыны сёньня я ня памятаю прозьвішчаў і імёнаў большасьці людзей, з якімі меў кантакты ў гады камуністычнага тэрору.

Усё назіраньне з боку КГБ за паднаглряднымі вялося, як правіла, па месцы іх працы або па месцы жыхарства. Таму ў такіх месцах каталіцтва я ніколі не прапаведаваў.

Зважаючы на тое, што пасьляператрусу ў мяне ў 1970 годзе па справе часопісу «Хроника текущих событий» нагляд КГБ за мною ўзмацніўся, я перанёс сваю місіянерскую дзейнасьць за межы Горадні. У Латвіі я пазнаёміўся з семінарыстам Рыжскай семінарыі Язэпам Сьвідніцкім (будучым каталіцкім сьвятаром) і сьвятаром Янісам Купчсам. Дзякуючы ім, я пазнаёміўся з экуменічнай групай «Сандра Рыга», пабываў на кватэрных спатканьнях рыжскай каталіцкай моладзі. Сьвятар Яніс Купчс добра ведаў расейскую мову і гуртаваў вакол сябе расейскамоўную моладзь. Ён адыграў вельмі вялікую ролю ў маім жыцьці, за што я яму вельмі ўдзячны. Ён пазнаёміў мяне з многімі прадстаўнікамі каталіцкай моладзі, дапамог мне каталіцкай літаратурай на расейскай мове і адкрыў перада мною магчымасьць вучыцца на грэка-каталіцкага сьвятара, стаць сьвятаром.

 

Разьдзел 11

# Сьвятарскае служэньне ў падпольлі і ў гады «перабудовы»

Напэўна, мая цікавасьць да рэлігіі і мая дзейнасьць у каталіцкай асьвеце была заўважана адказнымі асобамі Каталіцкай Царквы. Неяк адна жанчына, наверненая мною ў каталіцтва, запрасіла мяне зайсьці да яе на кватэру. На гэтай кватэры мяне сустрэлі два каталіцкія сьвятары: адзін лацінскага абраду — Сьняжынскі, другі — з Віньніцы — візантыйска-славянскага абраду. Яны прапанавалі мне вучыцца на сьвятара. На маю заўвагу, што я чалавек ужо жанаты і таму не магу быць рымакаталіцкім сьвятаром, яны прапанавалі мне стаць грэка-каталіцкім сьвятаром. Трэба адзначыць, што Грэка-Каталіцкая Царква ў тыя часы ў СССР была забаронена і знаходзілася ў падпольлі, і я практыкаваў у лацінскім абрадзе.

У мяне стварылася ўражаньне, што сам Бог абірае мяне, каб я стаў сьвятаром. Бо пасьля інтэнсіўнага рэлігійнага і малітоўнага жыцьця ў заключэньні я аддаўся сьвецкім справам, ажаніўся, большую частку часу праводзіў у клопатах пра сям'ю. І вось «нечакана-негадана» мяне знаходзяць каталіцкія сьвятары розных абрадаў і прапаноўваюць мне вучыцца на каталіцкага сьвятара! Як я мог расцаніць гэтую падзею? Вядома, толькі як умяшальніцтва Божае, як Провід Божы. Гэта была дзейная ласка Божая, гэта быў Божы заклік. І я адчуў, што абавязаны пасьледаваць яму. Вядома, гэтая ласка Божая мяне не прымушала, я быў вольны сьледаваць закліку або адмовіцца. Але адмовіцца — гэта было б страшэннай няўдзячнасьцю да Бога, які столькі зрабіў для мяне!

Я прыняў прапанову вучыцца на сьвятара, хоць у тыя часы тых, хто належыў да Грэка-Каталіцкай Царквы, за кожную праяву рэлігійнай дзейнасьці арыштоўвалі. З дапамогаю айца Яніса Купчса я пазнаёміўся з каталіцкім сьвятаром з Даўгаўпілсу Пурвінскім ды пачаў завочна навучацца і здаваць яму іспыты. Затым я вывучаў асновы грэка-каталіцкіх абрадаў у Каўнасе ў грэка-каталіцкага сьвятара (ягонае прозьвішча, здаецца, Фогель). Праз 3-4 гады такой вучобы я атрымаў сьвятарскія сьвячаньні. Адбылося гэта ў чэрвені 1976 году ў Львове, дзе я быў тайна высьвячаны на сьвятара мітрапалітам Грэка-Каталіцкай Царквы Ўладзімірам Стэрнюком.

 

Пасьля гэтага я вярнуўся ў Горадню і пачаў сваё сьвятарскае служэньне ва ўмовах падпольля. Праўда, у першы год сьвятарства займацца актыўнай дзейнасьцю мне было забаронена, я быў «закансерваваны». Такія былі патрабаваньні кансьпірацыі.

Да мяне па дапамогу зьвярталіся людзі з усёй Беларусі і з іншых рэспублік. Усе яны мелі патрэбу ў падрыхтоўцы да Сьвятых Тайнаў, катэхізацыі ды іншай духоўнай апецы. Час ад часу мне і самому даводзілася выязджаць у розныя рэгіёны Савецкага Саюзу, нават у Сібір і на Каўказ. Асаблівую радасьць мне заўсёды прыносіла праца з інтэлігенцыяй і моладдзю. Часта мне даводзілася сустракацца з праваслаўнымі сьвятарамі. З асаблівай цеплынёю ўзгадваю айцоў Дзьмітрыя Дудко і Аляксандра Меня. У маім пастырскім служэньні мяне часта падтрымлівалі рыма-каталіцкія сьвятары і манахіні.

У 1970-ых гадах у СССР былі толькі 2 каталіцкія семінарыі: у Каўнасе (яна абслугоўвала толькі Літву) і ў Рызе (для астатніх тэрыторыяў СССР). Навучальны працэс у Рыжскай семінарыі быў наладжаны на зразумелай для ўсіх у СССР расейскай мове, аднак на ёй не было вучэбнай царкоўнай літаратуры. Таму мне прапанавалі заняцца перакладамі такой літаратуры з польскай на расейскую мову. Зробленыя пераклады я перадаваў кіраўніцтву Рыжскай семінарыі. За гэты час я зрабіў пераклады кніг: «Апалагетыка», «Дагматыка», «Гісторыя Ката-

ліцкай Царквы», «Аскетыка», «Кананічнае права», «Тэадыцэя», рэкалекцыі для семінарыстаў на кожны дзень «Сумеснае жыцьцё з Богам», «Метафізіка» і некалькі іншых менш значных працаў.

Калі я бываў у Латвіі, я дапамагаў у сьвятарскай працы а. Янісу Купчсу, прычым ня толькі ў самой Латвіі. Я выязджаў з ім у Ленінград для таго, каб спавядаць расейскіх каталікаў. Двойчы давялося выязджаць у Грузію, дзе адпраўляў сьв. Імшу ў лацінскім абрадзе і спавядаў вернікаў. У Сочы быў душпастырам манахіняў з Літвы, якія прыехалі на Паўночны Каўказ для стварэньня місійных пунктаў на Каўказе, для пошуку і збору на іх католікаў, каб у далейшым імі маглі апекавацца каталіцкія сьвятары з Літвы.

У Горадні я стварыў катэхетычны гурток з каталіцкай моладзі, дзе, акрамя катэхізацыі, праводзіліся медытацыі на рэлігійныя тэмы. У Горадні я таксама браў удзел у арганізацыі барацьбы вернікаў за аднаўленьне набажэнстваў у Фарным касьцёле, супрацоўнічаў у пастырскіх справах са сьвятарамі Каталіцкай Царквы лацінскага абраду: Юзафам Грасевічам (у в.Каменка Шчучынскага р-ну), з дэканам, рэктарам Бернардынскага касьцёлу ў Горадні Міхаілам Арановічам ды іншымі каталіцкімі сьвятарамі Гарадзенскай вобласьці. У канцы 1980-ых гадоў па даручэньні рэктара Бернардынскага касьцёлу і дэкана Міхаіла Арановіча я езьдзіў у Менск

 

да рэспубліканскага ўпаўнаважанага па справах рэлігіяў у сувязі са спробай апошняга раскалоць царкоўны камітэт і ўвесьці ў ягоны склад анты-царкоўныя элементы.

На пачатку 1980-ых гадоў я аказваў душпастырскую апеку манахіням-дамініканкам візантыйска-славянскага абраду з Вільні. У сваёй большасьці гэта былі немаладыя ўжо жанчыны, якія раней былі рэпрэсаваныя камуністамі за місіянерскую дзейнасьць у СССР і навяртаньне моладзі да каталіцтва.

У 1990 годзе я быў запрошаны Навасібірскім універсітэтам і каталіцкім сьвятаром з Навасібірску для чытаньня лекцыі ва ўніверсітэце. Там я знаходзіўся каля месяцу. Служыў у гэты час імшу ў лацінскім абрадзе, займаўся катэхізацыяй вернікаў і прачытаў лекцыю ў Навасібірскім універсітэце на рэлігійную тэму.

Прыкладна ў той самы час у Горадні з мэтай прапаганды ідэі ўзьяднаньня Каталіцкай і Праваслаўнай Цэркваў я арганізаваў Таварыства імя Ўладзіміра Салаўёва. Для яго ўдзельнікаў я прачытаў колькі лекцыяў на тэму вывучэньня хрысьціянства.

Недзе тады ж праз сродкі масавай інфармацыі я даведаўся пра ўтварэньне ў Саратаве каталіцкай грамады візантыйска-славянскага абраду. Разам з ураджэнцам горада Саратава А.Самойлавым (цяпер ён манах-салезіянін) я сьпецыяльна выехаў туды, каб спраўдзіць гэтую інфармацыю. Выявілася аднак, што гэткім чы-

нам пэўныя асобы хацелі выкарыстаць давер Царквы, каб выехаць за межы СССР нібыта для вучобы. На жаль, было і такое.

У 1990-91 гг. я навярнуў у каталіцтва біскупа Вікенція з г.Тула, які належыў да Праваслаўнай катакомбнай Царквы. Я пабываў у яго дома, азнаёміўся з ягоным жыцьцём і рэкамендаваў яго з пэўнымі заўвагамі мітрапаліту Ўладзіміру Стэрнюку. Той, пасьля месячнага выпрабаваньня яго, паставіў яго першаярархам Расейскай Праваслаўна-Каталіцкай Царквы ў годнасьці біскупа Яснапалянскага.

Біскуп Вікенці стварыў 2 каталіцкія суполкі: адну ў Туле, другую ў Маскве на чале са сьвятаром Уласавым. Аднак Апостальская Сталіца пасьля вывучэньня кандыдатуры не зацьвердзіла рашэньня мітрапаліта Стэрнюка аб прызначэньні Вікенція. Тым ня менш на скліканым па ініцыятыве а. Яніса Купчса зборы каталікоў усходняга абраду ў Латвіі ў гарадку Зілупэ, брала ўдзел і група з 20 вернікаў Праваслаўна-Каталіцкай Царквы з Масквы, якія на чале са сьвятаром Уласавым зьдзейсьнілі паломніцтва ў Аглону — месца шматлікіх пілігрымак латышскіх католікаў. Разам з адстаўкай са сваёй пасады біскупа Вікенція гэтая група візантыйска-славянскіх католікаў а. Уласава спыніла кантакты з намі, і далейшы лёс іх мне не вядомы.

З лістапада 1990 году па травень 1991 году я працаваў выкладчыкам рэлігіязнаўства ў музыч-

 

най вучэльні імя Валковіча, дзе чытаў лекцыі навучэнцам у чатырох факультатыўных групах.

Пасьля адкрыцьця ў Маскве Каталіцкага каледжу імя Тамаша Аквінскага я арганізаваў філіял гэтага каледжу ў Горадні, у якім навучаліся 23 чалавекі. У каледжы я выкладаў каля 4 месяцаў. Пасьля група навучэнцаў гэтага філіялу была ўключана ў Гарадзенскі каталіцкі катэхетычны інстытут, дзе я выкладаў 3 навучальныя гады некалькі прадметаў: гісторыю Каталіцкай Царквы, багаслоўе ўнутранага жыцьця і эгзэгезу Сьвятога Пісаньня.

Недзе ў гэты самы час я ўладкаваўся лектарам па рэлігійнай тэматыцы ў Гарадзенскім гарадзкім і абласным таварыствах «Веды». Працаваў там некалькі гадоў — выступаў з лекцыямі на рэлігійную тэматыку на розных прадпрыемствах і ўстановах Горадні і Мастоў. Некалькі разоў выступаў з лекцыямі пра рэлігію ў сродках масавай інфармацыі (на радыё і тэлебачаньні).

Калі ў часы «перабудовы» зьявілася магчымасьць рэгістраваць парафіі, у кастрычніку 1992 году ў органах улады ў Горадні мною была зарэгістравана грэка-каталіцкая суполка, парахам якой я зьяўляюся да сёньняшняга дня.

Акрамя перакладаў для Рыжскай семінарыі, я зрабіў пераклад з польскай на расейскую мову кнігі Станіслава Нагі «Каталіцкая Царква» (багаслоўскія абгрунтаваньні), якая выйшла ў выдавецтве Сьвятога Крыжа (Рым-Люблін, 1994) і працы Папы Яна Паўла II «Веру ў Духа Сьвято-

га, Госпада жыватворчага» (выдавецтва Каталіцкага каледжу імя сьв. Тамаша Аквінскага, Масква, 1998).

Пасьля сьмерці дэкана Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы протапрасьвітара Яна Матусевіча я быў прызначаны дэканам БГКЦ. У чэрвені 2000 году мне давялося паехаць у Рым на Сусьветны Еўхарыстычны кангрэс. Тады я быў узьведзены ў годнасьць протапрасьвітара і меў асабістую сустрэчу з Папам Янам Паўлам II.

# Заключэньне

Напрыканцы гэтага аповеду, на падставе майго 53-гадовага вопыту спавяданьня хрысьціянства ў форме каталіцтва і 28-гадовага сьвятарскага служэньня, мне хочацца сказаць пра хрысьціянства наступнае:

1. Хрысьціянскае вучэньне ў яго каталіцкай форме адпавядае галоўным патрэбам чалавека. Нехта вельмі трапна сказаў, што «чалавечая душа — хрысьціянка».

2. Так, хрысьціянскія ідэалы вельмі высокія і трэба шмат працы, каб зьдзейсьніць іх у самім сабе. Але, калі б іх так лёгка было дасягнуць, тады б гэтыя ідэалы не былі б такія высокія. І тады не было б бясконцага імкненьня да дасканаласьці. Каб іх дасягнуць параўнальна хутка, ня трэба шкадаваць часу на малітву, а самае галоўнае — трэба аддацца пад апеку Царквы, якую выяўляюць добрыя сьвятары.

3. Хрысьціянства вельмі багатае паводле свайго зьместу:

- хрысьціянства мае маральную поўню, што відавочна для кожнага;

- хрысьціянства дае правільнае ўяўленьне аб прыродзе чалавека, надаючы вырашальную ролю чалавечай душы над ягоным целам, дае праўдзівае тлумачэньне паходжаньню зла ў чалавеку;

- хрысьціянства выхоўвае ў чалавеку ўнутраную свабоду, а ад яе чалавек набывае і зьнешнюю свабоду. Паводле словаў апостала Паўла: «Дзе Дух Гасподні — там свабода» (2 Кар 3, 17);

- дзякуючы практыцы сістэматычнай малітвы, хрысьціянства прывучае чалавека да разумовага засяроджаньня, да абстрактнага думаньня, а праз пасярэдніцтва дзеяньня дароў Сьвятога Духа (дары веданьня, розуму, мудрасьці, парады) робіць чалавека мудрым;

- дзякуючы ўзьдзеяньню асьвячальнае Божае ласкі, якая ўдасканальвае чалавека, хрысьціянства фармуе ў ім станоўчыя якасьці;

- хрысьціянства дае прынцыпы вырашэньня сацыяльных праблемаў (гл. Мц 10, 10; Сал 3, 10; Ян 8, 32; 2 Кар 3, 17; Гал 3, 28 і інш.);

- хрысьціянства, дзякуючы выхаваньню людзей у духу захаваньня натуральных законаў сусьвету і законаў маралі, садзейнічае захаваньню здароўя чалавека.

4. Каб даць правільную ацэнку хрысьціянству, трэба мець багаты духоўны вопыт, гэта значыць, быць практыкуючым хрысьціянінам.

 

Аднаго рацыянальнага веданьня хрысьціянства і Бібліі недастаткова. Як сказана ў адным з біблейскіх псальмаў: «Пакаштуйце, і ўбачыце, як добры Госпад!» (Пс 33, 9). Вось чаму ўся крытыка хрысьціянства з боку антыхрысьціянскіх сілаў, мякка кажучы, ёсьць невуцтва.

# Зьмест



Протапрасьвітар **Віктар Данілаў** нарадзіўся ў сям'і лекараў у Яраслаўлі ў 1927 г. У часе II Сусьветнай вайны, калі меў 15 гадоў, быў мабілізаваны ў вайсковую прамысловасьць.

У 1947 г. пастуліў у Яраслаўскі педагагічны інстытут, але праз год быў арыштаваны органамі дзяржбясьпекі. Атрымаўшы палітычны прысуд, адбыў у засьценках сем з паловай гадоў. У 1955 г. быў вызвалены, пасьля чаго цалкам рэабілітаваны.

Вярнуўшыся ў пэдінстытут, закончыў навучаньне па сьпецыяльнасьці "Гісторыя і асновы вытворчасьці". Працаваў па разнастайных сьпецыяльнасьцях: ад рабочага да старшага інжынера-эканаміста ў Навукова-дасьледчым інстытуце. Жыў у Яраслаўлі, Вільні, Таліне, а з 1967 г. у Горадні.

Яшчэ ў савецкіх канцлагерах прыйшоў да перакананьня ў існаваньні Бога ды прыняў каталіцтва. Пасьля вызваленьня, сумяшчаў працоўную дзейнасьць з нелегальнай місійнай: прапаведаваў хрысьціянства. У 1976 г. падпольна закончыў семінарыю ды ў чэрвені таго ж году ў Львове быў рукапакладзены ў сан сьвятара мітрапалітам Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы Ўладзімірам Стэрнюком.

З Горадні выязджаў у розныя рэгіёны СССР, нават у Сібір і на Каўказ, дзе нелегальна займаўся сьвятарскай працай. У гады "перабудовы", са зьяўленьнем свабоды рэлігійнай дзейнасьці, у кастрычніку 1992 г. арганізаваў грэкакаталіцкую парафію ў Горадні й стаў яе парахам. У гэты час працаваў у гарадзенскіх навучальных установах, дзе чытаў курс па асновах рэлігіі, а ў каталіцкім катэхетычным інстытуце выкладаў тэалагічныя дысцыпліны.

У 1999 г. быў прызначаны дэканам парафій Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы і ўзьведзены ў сан протапрасьвітара. У часе паездкі ў Рым на Сусьветны Еўхарыстычны кангрэс у 2000 г. меў асабістую аўдыенцыю ў Папы Яна Паўла II.

ISBN 985644813-1

